# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 05 (3325) Год LXV

Беласток, 2 лютага 2020 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Марта Ігнатовіч → 3



Вершы Веры → 4

# Хто любіць, той спявае

**Што дае людзям песня? А дакладней, што дае „Беларуская песня" — конкурс, які праходзіць на Падляшшы ўжо 27 гадоў? Ці гэта толькі герметычнае мерапрыемства, якое не мяняе свайго фармату з-за апатыі арганізатараў? Абсалютна не! Поўныя залы людзей, якія прыходзяць на кожны агляд, гэта найлепшы паказчык. 25 студзеня прайшоў раённы агляд 27-га Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня — 2020" у Сямятычах, дзе людзі стаялі нават у сенях, каб пачуць любімыя мелодыі і словы.**



Галена Датчук

Вядомы кампазітар Пётр Чайкоўскі сказаў, што музыка пачынаецца там, дзе не хапае слоў. Пераносячы гэтыя словы на наш беларускі панадворак, можна так сапраўды прама іх адчытаць. Знікае мова, беларускае школьніцтва, але яшчэ прынамсі жыве беларуская песня. У Мельніцкай гміне зараз няма ніводнай школы з беларускай мовай навучання.

„У сямідзясятыя гады беларуская адукацыя на Беласточчыне канчаткова заламалася. Прычын гэтай з'явы было шмат. Дэпапуляцыя беларускіх вёсак выклікала неабходнасць закрыцця сельскіх школ, дзе (часцей за ўсё па інерцыі) беларуская мова ўсё яшчэ выкладалася як прадмет. У створаных гмінных школах такога прадмета звычайна ўжо не было. Эфектыўны бар'ер стварала таксама пастанова міністра адукацыі ад лютага 1971 г. „аб поўным добраахвотным навучанні беларускай мове", якая загадала бацькам штогод запаўняць дэкларацыі, у якой выказвалі яны сваю волю, каб іх дзеці вывучалі родную мову. Дырэктары школ, якія не былі зацікаўлены ў выкладанні беларускай мовы ў сваіх пляцоўках, маглі свабодна яе ліквідаваць — нават там, дзе раней вучылі мове, аргументуючы тым, што няма патрэбных дэкларацый. У беларускім асяроддзі не было асяродка, які б мабілізаваў насельніцтва да барацьбы за ўласную адукацыю, бо ў беларускім асяроддзі БГКТ прадстаўляла інтарэсы партыі. У выніку ў сямідзясятыя гады колькасць вучняў, якія вывучалі беларускую мову, скарацілася з 11 да 4 тысяч" (Eugeniusz Mironowicz, *Szkolnictwo białoruskie w Polsce po II wojnie światowej*, „Rocznik Lubuski", 2004 , tom XXX, cz. I).



Адной з ахвяр такой палітыкі з'яўляецца Галена Датчук — заснавальніца калектыву „Навіна" з Машчоны-Каралеўскай, што ў Мельніцкай гміне. Сама беларускай мове вучылася толькі чатыры гады. Аднак гэтага хапіла, каб вывучыць яе на ўсё жыццё і займацца беларускімі справамі.

— Я вучылася беларускай мове ў пачатковай школе ў Вілінаве, — гаворыць спадарыня Галена.— Гэта таксама Мельніцкая гміна. Там быў такі супернастаўнік Анатоль Мартыновіч. Я вельмі люблю беларускую мову, літаратурную. Пішу часам свае аўтарскія песні на беларускай мове. Хаця дома ў мяне гавораць па-свойму, цвёрда: „ходыты, робыты".

І хаця няма ў гміне Мельнік ніводнай школы з беларускай мовай, унучка спадарыні Галены, якая зараз у восьмым класе, размаўляе па-беларуску.

— Мы разам жывем у адной хаце, можа гэта таму, — сціпла тлумачыць спадарыня Галена.

Апрача калектыву „Навіна" ў час раённага агляду конкурсу „Беларуская песня" ў Сямятычах выступіла яшчэ дзесяць творчых калектываў і салістаў. Цяжка не змірыцца са словамі старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства Яна Сычэўскага, што фестываль гэта адказ на культурныя патрэбы беларусаў Падляшша.

— Гэта вялікая радасць нашага народа, што мы не канфліктуем, толькі спяваем, — падкрэсліў Ян Сычэўскі. — І думаю, калі б паднялі гэтую ідэю, каб арганізаваць конкурсы пасля фестывалю беларускай песні, гэта была б натуральная патрэба нашага беларускага асяроддзя на Беласточчыне.

Менавіта дзякуючы фестывалю „Беларуская песня" ўзнік калектыў „Навіна".

— Мы кожны год выступаем на фестывалі, таму што наш ансамбль паўстаў 14 гадоў таму і наш першы канцэрт, у якім мы прынялі ўдзел, гэта быў менавіта фестываль беларускай песні, — гаворыць Галена Датчук. — Зараз вельмі многа выступаем, ездзім. Наступны канцэрт маем у Ломжы, пазней у Канстантынаве і ў Гарошкаве ў касцёле.

Сямятыцкі асяродак культуры быў шчыльна запоўнены людзьмі. Складалася ўражанне, што менавіта тут не хапае беларускіх мерапрыемстваў.

— Радыё Рацыя? А, знаю, слухаем, — сказаў адзін з гледачоў. — Зараз нашы жанчыны спяваюць. Мы таксама часам выступаем. Але сёння конкурсныя выступленні, то яны не хочуць, каб мы ім штосьці папсавалі. Так што лепш, сядзі, бацька, і назірай.

Большасць выступоўцаў гэта старэйшыя асобы. Часам нават крыху хворыя, як спадарыня Антаніна з Нурца-Станцыі з гурта „Весялочкі".

— Ай, сёння трохі баліць страўнік, але магу спяваць, — кажа. — Гэта прыемнасць. Людзі сустракаюцца з людзьмі, можна гуляць і радавацца разам. Цяпер усе зачыняюцца ў сваіх кватэрах і смартфонах. А спеў адкрывае на людзей і дае волю для жыцця.

І менавіта гэта захапляе, што людзі знаходзяць так шмат сіл і запалу ў тым, што робяць. Нягледзячы на боль і звычайную чалавечую слабасць, не здаюцца. Яны рыхтуюцца, прыязджаюць і спяваюць. Прыгожа спяваюць.

— Жанчыны з гурту сустракаюцца не толькі на рэпетыцыях, — дадае Антаніна Грушэўская.— Нам удалося стварыць сям'ю. Мы таксама любім сустракацца прыватна, пры нагодзе розных свят. І спеў дае нам шмат радасці. Мая любімая песня? Мне ўсе любімыя! Няма паскудных песень! Усе яны харошы.

Дваццаць сёмы раз стартавалі на Падляшшы раённыя агляды конкурсу „Беларуская песня". У Сямятычах, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Дуброве-Беластоцкай і Беластоку ізноў будуць запаўняцца залы людзьмі, якія раслі з фестывалем. Ці яшчэ той конкурс можа нечым здзівіць?

— Паасобныя фестывалі, паасобныя конкурсы, яны ніколі не паўтараюцца, — адказаў Ян Сычэўскі. — Калектывы спяваюць старыя, традыцыйныя песні, якія ведаем ад многіх гадоў, але ж таксама гэта песні ў выкананні новых калектываў, новых пакаленняў. Яны шукаюць новых форм аранжыроўкі і выканання. Маладыя пакаленні бяруць на сябе гэтую адказнасць, узнікаюць новыя беларускія песні. І я перакананы, што так як заўсёды, так як штогод, нешта неспадзяванае паявіцца. Гэта нам таксама гаворыць, што варта прасоўваць гэтую ідэю наперад, таму што існуе патрэба пошукаў, адкрыццяў. Трэба шанаваць і развіваць беларускую песню.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**



# Суд-2020 або „Мы выйдзем шчыльнымі радамі”

Нельга сказаць, што суды пачатку 2020 года ў Беларусі нейк кардынальна адрозніваліся ад судоў мінулагодніх, ці яшчэ ранейшых. Не. Суды тыя ж самыя, суддзі таксама, ды і ў падсудных тыя ж самыя імёны, прозвішчы і нават абліччы... Я маю на ўвазе суды над грамадскімі актывістамі, вядома ж...

Але адна розніца ўсё ж ёсць. І розніца кардынальная. Даўно не прыходзілася беларускім судам судзіць людзей за тое, што яны выйшлі бараніць Незалежнасць Беларускай Дзяржавы... Той самай дзяржавы, у якой, праўдападобна, толькі і могуць існаваць гэтыя суды, што судзяць актывістаў, і гэтыя міліцыянты, што затрымліваюць тых актывістаў... А персанажы гэтыя, суддзі ды міліцыянты, з большага ўсе з вышэйшай адукацыяй, і многія арыентуюцца ў заканадаўстве. І хоць трактуюць яго пасвойму, але напэўна добра разумеюць, як гэтыя іх дзеянні могуць ацэньвацца, калі сітуацыя хоць крыху павернецца ў другі бок...

Хіба таму на разглядзе скаргаў гарадзенскіх актывістаў у Абласным судзе ўсе дзеючыя асобы, ад актывістаў і ажно да суддзяў, нібыта памяняліся месцамі... І недасведчанаму чалавеку, напэўна, з першага разу было б цяжкавата зарыентавацца, хто каго судзіць! А самае галоўнае — за што?!

Ужо на першым жа разглядзе скаргі Ежы Грыгенчы, на пытанне суддзі, ці давярае Ежы гэтаму складу суда, Грыгенча задае суддзю сустрэчнае пытанне:

— А якой нацыянальнасці суддзя?

У іншы час гэтае пытанне было б успрынятае як абсурднае. Але зараз суддзя сур'ёзна задумаўся. У варунках сённяшняга дня, аказваецца, яно лагічнае, тое пытанне, і мае прамое дачыненне да працэсу. Бо справа ідзе пра Незалежнасць краіны, і вельмі непажадана, каб суддзя належаў хоць па якіх прыкметах да краіны, якая пасягае на гэтую Незалежнасць...

А ўжо на другім працэсе Уладзімір Арцыман нагадвае суду пра Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якая абавязвае грамадзян бараніць Незалежнасць сваёй Дзяржавы...

У гэты ж самы час, паралельна з гарадзенскімі працэсамі і суддзі, і грамадскія актывісты, і іншыя грамадзяне Рэспублікі Беларусь назіраюць парадаксальныя падзеі. Начальнік краіны завярае ўвесь свет, што незалежнасць для яго ёсць святой рэччу і ён яе нізашто не здасць. А па ўсёй краіне працягваецца карныя судовыя працэсы над актывістамі, што выйшлі на вуліцу сказаць тое самае, толькі крыху раней...

Трэці гарадзенскі працэс вызначыўся тым, што Мікалай Салянік на разглядзе яго скаргі не стаў чакаць завяршэння адпрацаванага і прадказальнага судовага сцэнарыя. Ён прыкаваўся ланцугом да стойкі ў зале суда, пакрыў сябе бела-чырвона-белым сцягам і зачытаў дакументы пра гібель сваіх сваякоў у Другую сусветную вайну.

— Яны загінулі за Незалежнасць Радзімы, — падсумаваў ён свой выступ. — А іх нашчадка, мяне, цяпер судзяць за тое, што я працягваю іх святую справу і таксама выступаю за Незалежнасць...

Суддзя пераляцеў у другую залу, дзе і завяршыў разгляд скаргі Саляніка без Саляніка. Ну, і вядома ж, супраць Саляніка. Самога ж Саляніка вырвалі з ланцуговых абдымкаў спецыяльнымі прыладамі адпаведных службы. А пасля яго вывалаклі з будынка суда людзі ў чорным з маскамі на тварах...

— Я бараніў і буду бараніць Незалежнасць Беларусі, — заяўляе на чарговым працэсе Вадзім Саранчукоў. — Дарэчы, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь патрабуе такіх дзеянняў ад кожнага, — падсумоўвае ён.

А на наступны дзень Сяргей Верамеенка ўжо заяўляе, што гэта не суд, і прапаноўвае суддзю ісці папіць кавы ды зачытаць ужо і так усім вядомае рашэнне. Суддзя так і зрабіў. Але як ён зачытваў гэтае рашэнне, сам Верамеенка, пры сольнай падтрымцы Саляніка, спявалі на ўсю судовую залу гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі”...

А ў гэты час па ўсёй Беларусі людзі збіралі грошы на штрафы актывістам, якіх асудзілі за акцыі „За Незалежнасць”. Беларусы ахвяруюць свае сродкі. І не таму, што яны лішнія, а таму, што кошт пытання вельмі высокі — Незалежнасць Радзімы.

Вось вам і рэферэндум, і апытанне, і права нацыі на самавызначэнне...

Ну а суды-2020 плаўна пераходзяць у гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі”...

**Віктар САЗОНАЎ**

# Больш чым нічога



Я люблю таматны сок, і ў мяне яго заўсёды замала, таму тое, што ў мяне ёсць, пераліваю ў шклянку. Да апошняй кроплі. Дапусцім, шклянка толькі напалову поўная. Гэта больш чым нічога ў любым выпадку. Вось правільная мера задавальнення альбо расчаравання — паўшклянкі соку альбо аж паўшклянкі соку! Тым не менш я спадзяваўся дастаць яго з бутэлькі больш, а папраўдзе, хацеў выпіць цэлую шклянку соку. Ці нават дзве, калі б паклапаціўся пра яго пастаўку. На жаль, не пастараўся. Па розных прычынах. Напрыклад, з-за недахопу грошай. Хачу ці не, мушу задаволіцца тым, што маю ў гэты час. І я незадаволены. Але я ведаю, што ўсё пачынаецца ў галаве. Я займаюся звычайнай прафесіяй журналіста, якая з-за яе нечаканай паспалітасці выцясняе з журналісцкага рынку ягоную надзейную, збалансаваную інфармацыю, падмацаваную ведамі пра той ці іншы прадмет. Сёння ўсе пішуць, што хочуць, і калі хочуць, толькі каб хутчэй, каб больш чым тое, што можна ўбачыць у інтэрнэце (але не толькі ў інтэрнэце) і незалежна ад таго, пра што і як пішуць, — проста для таго, каб зрабіць агульнадаступнымі пару сваіх прапаноў, выскрабаных з патыліцы, як правіла, найчасцей у форме свайго неаспрэчнага меркавання. У рэшце рэшт, чым яны больш супярэчлівыя, тым больш чытаюцца. Для тых, хто піша, гэта пералічваецца ў памеры платы. Для ўсіх астатніх — у невымернае асабістае задавальненне. І тым больш неаспрэчнае, чым больш сумніўнае. Асабліва, калі падобнае пісанне паходзіць з фейк-ньюсавай паэтыкі, якая будуецца на няведанні, агрэсіі, а часта на крывадушнасці і хлусні. Я не хачу мець з такім чымсьці нічога супольнага. Да нядаўняга часу медыйным носьбітам для яго былі грамадскія туалеты. У цяперашні час іх заўсёды замяняюць шырока чытаныя бульварныя газеткі і плёткі. Але гэта менш. Што тычыцца журналістыкі туалета, то яго чытанне было абмежаваным. У большасці выпадкаў іх пладавітымі стваральнікамі былі насценныя творцы. Акрамя, зразумела, выпадковых і вымушаных тэрміновымі абставінамі карыстальнікаў, якія з-за патрэбы, былі іх чытачамі. Ну, трэба ж было куды павесіць вочы ў... закаканым грамадскім туалеце. Я ведаю. Гады таму я і сам быў ахвярай, хм... такіх абставін. Мой начальнік у той час накіраваў мяне ў дэлегацыю ў адно мястэчка. Я павінен быў апытаць аднаго ягамосця. Ехаў туды цягнікам паўночы. На світанні туды трапіў. Ратуша, дзе мы пагадзіліся пагаварыць, была зачынена чатырма замкамі, адзіны ў горадзе рэстаран быў да гэтага часу закрыты. Было занадта холадна, каб сядзець на лаўцы ў парку, і я прагуляўся, каб прабавіць час вакол мясцовай рынкавай плошчы. Грамадская прыбіральня прысела ў сваім куточку. Здарылася, што мяне прыціснула... На шчасце, срачык ужо быў адкрыты. Яго санітарны стан, нягледзячы на пышны кабінет «бабулі», быў такі, які быў — я не ведаў, куды падзець вочы. І я заняўся інфармацыяй на сцяне. Адна з іх мяне шакавала. Я быў у гэтым мястэчку ўпершыню, нікога ў ім не ведаў, і вось што я прачытаў: «Мірэк! Перад маімі вачыма ты выйшаў на свінню! Актавій.» Вось як я «выйшаў»!?. Вось я свіння. Уявіў сябе басаногм на свінні, свіння пішчыць і дзярэ лыч... У фінале я паваліўся ў гразь. А смяяўся ж нада мною нейкі Актавій, хаця я ніколі не сустракаў каго-небудзь з такім імем. Гэта быў відавочны фейкньюс, на жаль, у яго былі наступствы. Калі я, нарэшце, знайшоў суразмоўцу, прадставіўся яму па імені. Спачатку ён нахмурыўся, пагледзеў на мяне з непрыхаванай варожасцю. «Ну, ужо па размове», — падумаў я з жалем. Але раптам яго твар пасвятлеў, і ён выбухнуў гамераўскім смехам. І таксама было ўжо па размове. Гэта значыць па такой, якую я планаваў. Таму што мы размаўлялі некалькі гадзін, разглядаючы пытанне, ці лепш лезці на свінню, ці выйсці на яе. Высветлілася, што некалькімі суткамі раней мой субяседнік у выпадковых аналагічных абставінах стаў чытачом таго ж туалетнага фейк-ньюса. І форма запісу таксама не падалася яму лагічнай. За выключэннем таго, што яго больш хвалюе: кім быў той Актавій? «Ведаю ўсіх у сваім мястэчку. А такога яма!» Усё ж ён ёсць! Бо ж ён дакладна падпісаўся — Актавій! «Дарагі мой пан, выразна падпісваюцца толькі тыя, хто мае сваю гісторыю. Нейкі ананімны Актавій без яе нішто. Ну, хіба толькі падкладвае іншым свінню». Гэты момант кіраваў мною падчас напісання інтэрв'ю з недурным чалавекам з глухога, маленькага мястэчка. Я мог за ганарар набыць скрынку таматнага соку. Але не набыў. Здаецца, купіў шклянкі. Гэта і так больш, чым нішто.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Вадохрышчанская жывая вада

Так склалася, што апошнюю, посную, гэтак званую вадзяную каляду перад святам Вадохрышча правёў я ў бацькоўскай хаце, рыхтуючы святочную вячэру. Але здаўна самым містычным момантам гэтага свята з'яўляецца асвячэнне вады, якая цягам года ў кожнай хаце скарыстоўваецца ў сакральна-бытавых справах. Перш-наперш служыць яна самім жыхарам дома, каб яе напіцца адразу пасля прыносу з царквы. Яна неабходная на стале падчас калядных, малітоўных візітаў святароў у сваіх парафіяльных авечак. Таксама цягам года спатрэбіцца яна нам як лякарства ў самых безнадзейных і цяжкіх захворваннях. Нават пры вечным развітанні з зямным светам нашых дамачадцаў грамнічная свечка і асвечаная вада — неад'емныя ў вандраванні перад Гасподняе аблічча. У сялянскай рэчаіснасці асвячоная вада гэта таксама і ахоўны, духоўны плашч хатняй жывёлы. Добра памятаю са свайго дзяцінства, калі першы, веснавы выган кароў на пасавыя лугі пачынаўся заўсёды з малітвы і акраплення вербнымі галінкамі статка жывёлы. Асвячэнне новых дамоў і іншых хатніх будынкаў заўсёды адбывалася з такой жа цырымоніяй. Ну, але сёлета дзеля прыроднай традыцыі не хапіла толькі славутых крашчэнскіх маразоў, якія заўсёды прыплывалі да нас з нейкім арктычным цыклам паветра. А тут поўнасцю калапс. Гэтую знявагу і ашуканства пушчанскія старажылы лічаць знакам Божым, прадказваючым чарговую, сусветную вайну, або і паступовы надыход канца свету. У такой сітуацыі настрої людзей, пазбаўленых свайго натуральнага, прыроднага цыкла, поўныя адчаю і зняверання ўжо ў якую-колечы праўду. Але застаецца вера ў моц той жывой, асвечанай вады. Вядома, што значная частка жыхароў нашых вёсак з-за прычыны хвароб і ўзросту не ў змозе даехаць, ці дайсці на святочную багаслужбу. І тут з чалавечай і хрысціянскай дапамогай прыходзяць бліжэйшыя і далейшыя суседзі, ці сваякі. Наш царкоўны стараста дакладна палічыў колькі бутэлек асвячонага дару патрэбна яму развезці па нашым куточку, каб ніхто не адчуў сябе пакінутым і забытым. Даведаўшыся, што я таксама акурат у бацькоў, падумаў ён і пра мяне, даручыў бутэльку вады з калодзежа ў роднай, Вярстоцкай парафіі. Мая ўзрушанасць і бязмерная падзяка за гэтую памяць для Віктара Патэюка! Такім чынам у маёй беластоцкай кватэры апынулася асвячоная вада з роднага старонні. Час Вадохрышча, ці Трох каралёў, у вясковай рэальнасці быў перыядам гасцявання сваякоў і сябровых вяскоўцаў. Бо ж вядома, Раджаство Хрыстовае гэта перш за ўсё сямейнікі, Новы год, для маладзейшых час гульняў, а вось тры каралеўскія дні даюць магчымасць сустракацца ў пашыраным крузе. Не інакш было і цяпер у мяне дома. Ужо ў нядзелю з самой раніцы атрымаў я бацькоўскі загад нарыхтаваць талеркі з вяндлінай і хлебам, падрыхтаваць напоі, шклянкі і кілішкі на прыход гасцей. На маё сумненне, што магчыма яшчэ зарана рыхтаваць закуску, атрымаў разумны адказ: «Калі ж завітаюць госці, то дзе ж ім чакаць яду». Пасля аб'яўлення такой простай праўды я проста засаромеўся. У такой сітуацыі, каб даказаць сваю павагу і пашану да святочнага рытуалу, я паспеў зварыць расол з лісічкамі, якога пах з печы лунаў па ўсёй хаце. І святочныя госці не падвялі. Жменька апошніх, жывых аднавяскоўцаў наведвалі сябе цягам трох дзён і віншавалі з Вадохрышчам. Жывая, асвячоная вада яднала і давала радасць ад сустрэчы і ўзаемаразумення супольнага лёсу пушчанскіх людзей і іхніх жыццёвых выпрабаванняў. Зразумелым толькі ім і іхняму прыродна-хрысціянскаму кругагляду. З аднаго боку ліліся расказы пра мінулае з усмешкай і жартамі, з другога боку — трывожныя роздумы над тым, да якой пустэчы і адмірання дакаціўся наш куток. Нават у калядную суботу ў храме была пакойніца з лясной вёсачкі. Ну што ж, законаў жыцця і смерці не адменяць аніякія ўладары, ці зямныя суды. Але пакуль гучыць чалавечае слова, трэба радавацца жыватворнасці роднага свету.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Сілу дае мне малітва.

## Натхненне трэба часам пашукаць у інтэрнэце ☺

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Вывучаць беларускую мову я стала ў ліцэі. Яна мне была вельмі блізкая, родная мова і я рашыла перадаваць наступным пакаленням, каб яна ніколі не загінула.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Мой ідэал гэта мая сяброўка аднакурсніца, Аліна Ваўранюк. Сапраўдная настаўніца, для якой няма немагчымага.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Так. Я супрацоўнічаю з настаўнікамі бельскай «тройкі» Яўгеніяй Васілюк, Яраславам Падольцам, Андрэем Марозам а таксама з Аннай Бжазоўскай з Бельскага белліцэя

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Цэнтр беларускай культуры ў Варшаве.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Праектаў у нас няма.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Я вельмі люблю дэкламатарскія конкурсы, у якіх мае вучні вельмі ахвотна прымаюць удзел.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Калі гаварыць пра бацькоў я заўсёды магу разлічваць на іх дапамогу. Мы лічым нашай супольнай справай перадаць дзецям іх роднае.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Я працую настаўнікам толькі шосты год і дагэтуль вучні абавязкова вывучаюць беларускую мову. Думаю, што калі вядзецца навучанне на прынцыпе добраахвотнасці, складанай справай для настаўніка можа быць заахвочванне вучняў.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— На ўроках вучні працуюць ахвотна, таму няма з гэтым праблемы.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У мяне два лаўрэаты

**— Ці, паводле, Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Я думаю што зараз наш гонар гэта падручнікі для класаў 1-3, якія дапасаваныя да сучаснасці. З нецярпеннем чакаю падручнікаў для старэйшых класаў.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**



**Марта ІГНАТОВІЧ**, настаўніца ў бельскай НШ н-р 1 ім'я арх. Лукаша Война-Ясінецкага, нарадзілася 14 красавіка 1985 г. у Бельску-Падляшскім. Закончыла ПШ № 4, а пасля белліцэй імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Далей паступіла ва Універсітэт у Беластоку і закончыла факультэты беларусістыкі і русістыкі. Настаўніцай працуе ўжо шосты год і, як сама адзначае, ёй гэтая прафесія па душы. Спявае ў царкоўным хоры, а таксама вядзе царкоўны дзіцячы хор. Вядзе і разам са сваімі вучнямі гуляе ў тэатр. Жыве ў Бельску.



— Лемантар.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Міра Лукша

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— «Бабскія гісторыі» Міры Лукшы (чарговы раз).

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Калі толькі ёсць магчымасць, заўсёды ахвотна працягваю да яе руку.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Думаю, што фэсты з цыкла «І там жывуць людзі». Яны вельмі патрэбныя і цікавыя.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Са сваімі вучнямі заўсёды стараюся размаўляць на роднай мове, часта на мясцовай гаворцы.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Прыкрыя рэчы бываюць, калі працуеш з людзьмі, але я іх хутка забываю.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Не ведаю ці ёсць штосьці такое, што мяне палохае і наклікае стому.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Яшчэ няма, але спадзяюся што будуць.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— За сваю працу атрымала я ў мінулым годзе грашовую ўзнагароду дырэктара школы.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу дае мне малітва. Натхненне трэба часам пашукаць у інтэрнэце :)

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Самым прыемным успамінам з'яўляецца хвіліна, калі мае вучаніцы сталі лаўрэаткамі конкурсу. Гэта быў другі год маёй працы ў школе і ніхто не спадзяваўся гэтага.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— У сённяшнім свеце вельмі мала каштоўнасцей. Урокі беларускай мовы гэта дадатковыя гадзіны ў праграме, а не доўгачаканыя заняткі. Беларусы, шануйма сваё роднае! Ганарымся гэтым і заўсёды будзьма разам!

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Сяброўская сустрэча

19 студзеня, Вадохрышча. Вернікі Праваслаўнай царквы зранку ўдзельнічалі ў асвячэнні вады, затым сустракаліся пры святочным застоллі ў кампаніі сямейнікаў і сяброў. У мяне ў гэты дзень адмысловая нагода — васьмідзясятыя ўгодкі з дня нараджэння. Ад дачок і ўнукаў атрымаў такія віншаванні:

*Няхай у дзень твайго свята*
*Усмешка на вуснах гарыць,*
*Грошай няхай будзе багата*
*Дзень кожны шчасцем хай звініць.*
*У дзень нараджэння жадаем*
*Кахання, шмат добрых прыгод,*
*Для цябе сэрца хай спявае*
*Песню сёння і цэлы год!*

Ад сяброў па фейсбуку атрымаў я дзясяткі віншаванняў і пажаданняў. Значыцца, яшчэ не забыліся цалкам пра Сідарука, ніўскага карэспандэнта. Усім ім разам і кожнаму паасобку нізкі паклон і шчырае дзякуй! Гадоў пяць таму арганізаваў я свае ўгодкі ў „Ніве". Зараз не ў змозе, хвароба не дазваляе. З прыемнасцю магу адзначыць, што сёлетнія ўгодкі святкаваў я з дочкамі і ўнукамі — нястомнымі спадарожнікамі майго жыцця, а таксама з задушэўнымі прыяцелямі Міхасём Андрасюком і ягонай жонкай Галінай, Сцяпанам Календай з Бельска-Паляшскага ды Валодзем Данілюком з Малінніка. Прыемна было правесці святочны дзень у так сардэчнай і сяброўскай кампаніі.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Птушкі і людзі

Як вядома, калі няма гадоўлі хатняй жывёлы ды курэй, гусей, індыкоў і іншай хатняй птушкі, тады нялёгка перажыць зіму курапатцы, сароцы ці вераб'ю. Дзе падхапіць зярнятка ці іншы корм? Зараз на сялянскіх панадворках мала прыязных дзікім птушкам драўляных стадол з духмяным сенам і са снапамі жыта, аўса або пшаніцы ды хлявоў і свірнаў накрытых утульнай ім саломай.

Дыёсць, між іншым, у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета, людзі, якія дапамагаюць птушкам перазімаваць. Ужо многа гадоў падкормлівае іх Вера Клімюк з ціхай лясной Плянты. Мае яна дзве птушыныя сталовыя. Да яе прылятаюць берасцянкі, івалгі, сініцы, снегіры. А сойкі, дык тыя ў яе на панадворку пастаянныя госці летам і зімой.

Падкормкай малых дзікіх птушак займаецца адзін жыхар Навін (да яго ахвотна прылятаюць сарокі, сініцы і дзятлы) і трох з Новага Ляўкова. Не пісаў я яшчэ толькі пра навяляўкоўца Яўгена Харкевіча, бо нядаўна даведаўся пра яго хобі. Гаспадарам-апекунам птушкі аддзячаць вясной сваім радасным прыгожым спевам. **(яц)**

## Зімнія канікулы

Зараз школьнікі маюць двухтыднёвыя зімнія канікулы. У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета запрашаюць да сябе на культурныя мерапрыемствы і цікавыя заняткі гмінны асяродак культуры (ГАК), галерэя, бібліятэка і святліца ў Нараўцы ды святліцы і бібліятэкі ў Семяноўцы і Старым Ляўкове.

Вясковыя дамы культуры прапануюць заняткі ў памяшканнях і па-за святліцамі. У святліцах адбываюцца, між іншым, сустрэчы з леснікам з Надлясніцтва ў Броўску, ладзяць спаборніцтвы па настольным тэнісе, ахвотныя займаюцца лепкай з гліны, робяць макеты мясцовых аб'ектаў цікавых па архітэктуры, рысуюць вугалем. На пластычных занятках выконваюць паштоўкі, лампіёны, малюнкі тэхнікай калаж, вучацца складання арыгамі.

У ГАКу ў Нараўцы запланавалі карнавальны баль, пачалі ўжо рыхтаваць касцюмы і маскі. У Семяноўцы намецілі паехаць на кулігі (як не будзе снегу, то балонавымі вазамі) і пагуляць у лесе ля вогнішча. У трох святліцах будзе навука пячэння і гатавання ды вышыўкі (гафтавання) На нуду не трэба будзе наракаць. **(яц)**



# Вера Русіновіч парадавала наш свет!






■ Анна Савіцкая-Анджэюк (злева), Хрыстафор і Ян Грынявіцкія

На прэзентацыю «Верного слова» ў Нарву, паехалі мы з Мірай Лукшай на аўтобусе, і так сказаць, з душой у пятках. Не ведалі, ці пашанцуе вярнуцца назад. І не было выхаду! Нам вельмі хацелася падтрымаць ніўскую аўтарку. А для мяне асабліва, паколькі Вера Русіновіч (у дзявоцтве Веся Назарук) з маёй вёскі, Кутлоўкі. І шчыравала я некалькі дзён пры ўзнікненні яе зборніка, значыла дыфтонгі і правіла канчаткі ў дзеясловах. Ну, сам выклік быў прыгожы і здаровы. Вера Русіновіч падрыхтавала том на арыгінальнай мове нашай вёскі. А пасля, кожнаму з асобна, яна напісала разам з аўтографам: «*Чытаем па-своему*».

Сапраўды, вечарам 22 студзеня ў Нараўскай бібліятэцы чыталі, гаварылі і спявалі *па-своему*. Адчувалася глыбокае зразуменне, узрушанасць і ўдзячнасць аўтарцы.

І непаўторнасць хвіліны.

Мы не сумняваліся, што прэзентацыя твораў Веры Русіновіч пяройдзе ў гісторыю Нарваўскай гміны. І пацягне за сабой, як гэта ўжо адбываецца ў Нараўчанскай гміне, моду на сустрэчы з жывым словам і мясцовымі, народнымі аўтарамі. Дырэктар бібліятэкі Анна Савіцкая-Анджэюк як ніхто разумее важкасць такой ідэі. Яна сама даклалася да выдання кніжкі як спонсарка.

— Хацелася мне, каб была кніжка Веры, — пракаментавала ўсё спадарыня Анна.

* * *

З Верай Русіновіч я знаёмая з дзіцячых гадоў і ведаю як балючай і пакручастай была яе дарога да творчага самаадкрыцця. Але шчасце не пакідала, у добры момант жыцця яна сустрэла а. Рыгора Сасну. Бацюшка параіў раскрыцца шырэй, пісаць у «Ніву». У газеце яна патрапіла пад прафесійную апеку паэтэсы Міры Лукшы, якая матывавала не толькі пісаць, але і прымаць удзел у літаратурных конкурсах.

І гэта спрацавала.

Сціплую Веру Русіновіч дацаніла журы XXII Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют», ды ўзнагародзіла яе прэстыжным другім месцам. Поспех злагодзіў хваляванне, няўпэўненасць і недахоп вопыту. А ў ходзе прэзентацыі вырашала спантаннасць і адкрытасць людзей. Вось, ужо ў бібліятэцы спадарыня Анна Савіцкая-Анджэюк, папрасіла нас з Мірай павесці сустрэчу. І мы адразу згадзіліся. Вечарына, на якую тлумна з'ехаліся людзі з Нарвы і наваколля, пачалася з музычнай інтэрпрэтацыі вершаў народнай паэткі. Песні пад гукі гітары выканалі Кшысь Грынявіцкі з сяброўкай-прыгажуняй. Ён таксама аўтар унушальнага дызайну «Верного слова»....

Далей, як гэта павінна быць, пайшлі аўтарскія чытанкі — шчырыя, спантанныя, простыя. І расповед пра самую Кутлоўку, якая падарыла натхненне ўжо не аднаму творцу. Творчы дух пранік не толькі шаноўную публіку, але, здаецца, і ўпрыгожаныя на калядны лад сцены і прылады. Ды нават ніхто не здзівіўся, калі спадарыня Аліцыя Станько, шматгадовая бібліятэкарка з Ласінкі, зачытала свой верш пра хлеб. Верш, на ласінска-ляўкоўскай гаворцы, прысвячаўся Веры Русіновіч і заяўляў пра яе вернасць роднаму свету.

* * *

Мне самой прыемна было прыгадаць пра старажытную метрыку Кутлоўкі, вядомай ужо ў гады Рымскай імперыі. Пра памяць нарманскага перыяду напамінае комплекс курганоў III-IV стагоддзяў за вёскай. Яшчэ ў гады майго дзяцінства праз вёску вяла Нарваўская дарога, якой дабіраліся сяляне з навакольных вёсак на аўторкавы рынак у *местові* Нарва. Услед фурманкам цягнулі і людзі з маёй вёскі, заўсёды адкрытыя на жывое, новае і грамадскае. Вось, тая грамадскасць, шчырая дружба і ўзаемадапамога вельмі відавочны на старонках «Верного слова». А хату Веры Русіновіч я ад пачатку звязваю з «Нівай» і сшыткамі, у якіх, ад рукі, былі запісаны калядкі і царкоўныя малітвы. У перадкалядны перыяд мы прыходзілі ў яе хату, каб вывучаць калядкі. Лідзія Назарук (маці Весі) актывізавала ў нашай (не надта ўжо і рэлігійнай вёсачцы) круг царкоўных братчыц. Дзякуючы яе амбіцыям, кутлоўскія маладзіцы карысталіся правам выстойвання ў пачатку царквы на важных багаслужбах. Рэлігійнасць у нас звязвалі з кніжкай і газетай. Вось з невялікай Кутлоўкі, як удалося мне палічыць, пяць асоб творча звязаных з «Нівай». У 60-я гады ў наш тыднёвік пісаў на правах карэспандэнта ўражлівы Пеця Банькоўскі. Праз нейкі час з «Нівай» прафесійна звязаўся Міша Хіліманюк, пасля я і мая малодшая сястра Ася, якая пераклала вершы і раманы з французскай і англійскай на нашу, кутлоўску, мову.

Ды том «Верное слово» Веры Русіновіч не надта здзівіў. Ён бачыцца як лагічная паслядоўнасць нашага пачуцця свабоды і любові да роднага.

Праўда, у згаданай любові ніхто не мог параўняцца з Ваняй Назаруком (родным братам Веры), шматгадовым солтысам Кутлоўкі, шматлікім бацькам хросным і верным чытачом «Нівы». Ды калі сцягалі ў нашу вёсачку розныя этнографы і даследчыкі фальклору, пры грамадскай гасціне Ваня частаваў усіх аўтарскім тостам, які гучаў менавіта так: «За шчасце і волю беларусаў!» Пасля госці са свету пісалі і гаварылі, што нідзе больш яны не чулі такога прыгожага тосту.

* * *

Том вершаў «Верное слово — вялікі выдавецкі поспех! Прэзентацыя ў Нарве прыцягнула столькі народу, што аж но ўсе здзіўляліся адкуль назбіралася столькі людзей у абязлюджанай гміне. Завіталі сяброўкі аўтаркі з царкоўнага брацтва, жанчыны з Кола вясковых гаспадынь, прыехалі сяброўкі з Кутлоўкі з мужамі. На прэзентацыі мы пабачылі самавітую паню Тамару Ляшчынскую, у якой нюх да сапраўднай, непадробленай эстэтыкі. Солтыска Сацоў даведалася пра прэзентацыю па фейсбуку. Прыехала згаданая ўжо пані Аліцыя Станько і сам настаяцель Ласінскага прыхода бацюшка Георгій Кос.

І людзі пацікавіліся не толькі смачным пачастункам!.. Каб атрымаць аўтограф, трэба было выстойваць у доўгай-доўгай чарзе. Усім было прыемна, добра і смачна.

Мы з Мірай Лушкай, хаця вельмі баяліся, шчаслівa вярнуліся апошнім аўтобусам у Беласток з духмяным хлебам ад самой аўтаркі. І варта было! Я ўсю дарогу думала пра сваю адміруючую вёсачку, якую ў чацвёрты дзень Трох каралёў так ярка ўзвесяліл ў Нарве.

Дзякую, Вера Русіновіч! Дзякую, Анна Савіцкая-Анджэюк!

Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**

# Скульптурны пленэр у Гайнаўскім белмузеі

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**У першым пленэры разьбы па дрэве, які арганізавала Культурнае аб'яднанне «Тыбель» з Якубова ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, які быў суарганізатарам мерапрыемства, прынялі ўдзел па два скульптары з Рэспублікі Беларусь і Гайнаўскага павета. 22 снежня мінулага года ў прысутнасці жыхароў Гайнаўкі і наваколля ў Белмузеі адбылося падвядзенне вынікаў скульптурнага пленэру і адкрыццё адмысловай выставы прац, выкананых у адпаведнасці з вядучай тэмай пленэру «Мая малая айчына».**

— Ідэя разьбярскага пленэру ўзнікла ў нас даўно, але ўдалося яе ажыццявіць толькі цяпер. Такія пленэры ладзіліся ў Гайнаўцы ў мінулым і былі яны нам інспірацыяй. Калі некалькі гадоў назад пленэры ў Гайнаўцы былі адноўлены і вяліся пошукі месца, дзе можна было б змясціць разьбу, мы запрапанавалі пляцоўку нашага музея. Зараз мы арганізуем свой пленэр разьбы па дрэве. Спадзяемся, што і ў наступных гадах пленэры будуць плённымі ды ўзнікнуць цікавыя скульптуры, якія будзем прэзентаваць у Белмузеі, — сказалі старшыня ўправы Культурнага аб'яднання «Тыбель», дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк, які адкрыў пленэрную выставу і Агнешка Ціханюк, сакратар аб'яднання «Тыбель», якая ў белмузеі курыруе мастацтва.

— Разьба па дрэве — плён абодвух пленэраў (таго, які арганізаваўся на панадворку Гайнаўскага дома культуры і гэтага, які ладзіўся тут, у Музеі), цікавая, адклікаецца да нашай пушчы і яе наваколля. Варта, каб вучні школ Гайнаўкі і наваколля пазнаёміліся з творамі мастацтва, якія ствараюцца ў нашым горадзе, — заявіла старшыня Рады горада Гайнаўка Валянціна Пятрочук.

Сярод гасцей вернісажу былі самаўрадаўцы, радная Гайнаўскага павета Ала Грыц, гарадскія радныя Ян Хомчук, Ядвіга Дамброўская і Гражына Паўлючук.

Разьбяры з Рэспублікі Беларусь Анатоль Туркоў і Аляксандр Лазерка, мастак Марк Сапёлка з Гайнаўкі і разьбяр Мікола Корх з Карахоў працавалі ў час пленэру па тэме «Мая малая айчына». Выканалі яны скульптуры, якія тычацца мінулага Белавежскай пушчы і яе наваколля, прыроды, сельскагаспадарчых прац і сучаснай актыўнасці беларусаў.

— Пленэр праходзіў пад лозунгам «Мая малая айчына». Мы хацелі, каб скульптары паказалі свет, у якім мы жывем штодзень, найбліжэйшы наш краявід, які нас акружае, прыроду, людзей і культуру, якую яны ствараюць. Скульптары па-свойму паказалі малую айчыну, вырэзвалі постаці бабуль, мам. На скульптурах паказаны ўспаміны з дзяцінства і пазнейшых перыядаў жыцця аўтараў. У разьбе адлюстравана Белавежская пушча, важнае месца нашай малой айчыны, — заявіла сакратар аб'яднання «Тыбель» Агнешка Ціханюк, арганізатарка пленэрнай выставы.



■ Марк Сапёлка ля скульптуры бабулі — сімвала традыцыі



■ «Анёл-ахоўнік» Аляксандра Лазеркі

Скульптары, якія працавалі ў белмузейнай майстэрні каля двух тыдняў, разьбярылі ў дубіне і лістоўніцы. У пленэры прымаў удзел вядомы ў Беларусі і ў нас на Беласточчыне беларускі скульптар Анатоль Туркоў з Камянца, якога працы знаходзяцца ў прыватных калекцыях у еўрапейскіх краінах. Восенню мінулага года разам з Дарафеем Фіёнікам у Музеі малой айчыны ў Студзіводах адкрыў ён свой барэльеф «Студзіводская панарама». Прадставіў на ім сімвалічную гістарычную карту Студзіводаў XVI стагоддзя і гандлёвыя шляхі, якія спалучалі Студзіводы з гаспадарчымі і культурнымі цэнтрамі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, а таксама выявы гістарычных постацей звязаных са Студзіводамі.

— Я «Студзіводскую панараму» выконваў каля двух гадоў у вольным часе паміж іншымі маімі заняткамі. Разьбярыў таксама частку постацей, якія знаходзяцца ў Музеі ў Студзіводах і ў Раманаўцы. У Парку каралевы Алены ў Бельску-Падляшскім памешчана мая праца, прымеркаваная да 450-годдзя Сойма Вялікага Княства Літоўскага ў Бельску. Я прымаў удзел у шматлікіх пленэрах ладжаных у Польшчы, у якой знаходзіцца звыш ста маіх мастацкіх работ, — распавёў народны майстар Рэспублікі Беларусь Анатоль Туркоў. Разьбяр з'яўляецца старшынёй Грамадскага аб'яднання аматараў мастацтваў рэгіёна «Белавежская пушча» і Брэстчыны «Тур», якое супрацоўнічае са Студзіводскім музеем і з Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы. У час пленэру ў Белмузеі Анатоль Туркоў у сваіх скульптурах паказаў малую бацькаўшчыну беларусаў праз мацярынства, працу нашых продкаў на сельскай гаспадарцы, сяўбу ўручную збожжа, жніво з сярпом у руках, абрад дажынак і калядаванне.

Побач рэалістычных прац на экспазіцыі можна ўбачыць скульптуры з сімваламі, якія кожны глядач можа

чытайце ☞ 10

## Хаты пры пушчы

Люблю прыгожыя драўляныя вясковыя хаты ў засені высокіх дрэў. Яны найбольш прыязныя для чалавека. У такім доме я нарадзіўся і зараз у ім жыву. Нараўшчына ў Гайнаўскім павеце драўлянымі хатамі багатая. 17 студзеня гэтага года паехаў я на роварь ў беларускія прыпушчанскія вёсачкі Падляўкова і Сушчы Барок (тут Белавежская пушча).

У Падляўкове на левым беразе ракі Нараўкі дзевяць абжытых драўляных дамоў і два старыя. Сярод драўляных будынкаў найпрыгажэйшыя дамы Ірэны і Уладзіміра Сухадолаў (ён здалёк кідаецца ў вочы), Аляксея Сухадолы і Мікалая Сухадолы. У Мікалая Сухадолы ашаляваны дом з прыгожым ганачкам ад вуліцы. Некаторыя дамы памаляваныя ў белы, ясна-сіні, аранжавы або жоўты колер. Усе абгароджаныя платамі. Драўляны дом купіла, адрамантавала і паставіла прыгожы драўляны плот жыхарка Варшавы. Яна прыязджае ў Падляўкова вясной і летам. Тады тут вельмі прыгожа. Прырода ў росквіце. У маі вечарамі чуваць салаўіны спеў у кустах над ракою. Яна яго любіць. Яна любіць прыроду.

Падляўкова — вёсачка на скрыжаванні асфальтавых дарог у Новае Ляўкова, Ахрымы, Бярнацкі Мост і Нараўку. Налічвае яна 32 жыхароў. Вёсачка прыгожа распалажана: у яе з аднаго боку падступаюць надрэчныя лугі і сенажаці, а з другога — Белавежская пушча. У сяле пераважаюць драўляныя дамы. Мураваных няшмат — усяго чатыры. Іх пабудавалі тыя, хто працаваў на керамічнай фабрыцы ў Старым Ляўкове.

У Сушчым Барку, вёсачцы распалажанай паабапал павятовай асфальтавай дарогі, якая вядзе з Падляўкова ў Мінкоўку і далей у Нараўку, пражывае 16 чалавек. Тут сем драўляных хат. Прыгожыя драўляныя дамы маюць Альжбета і Яўген Сухадола ды Уладыслаў Грыка, які займаецца агратурызмам. У Сушчым Барку драўляны дом купілі і прыгожа адрамантавалі варшавякі.

Гэтая ціхая і спакойная вёсачка над ракою Нараўкай складаецца з дзвюх крыху аддаленых ад сябе частак, якія раздзяляе дрыгвяное балота і вербалозавае кустоўе на ім. Тут водзяцца водныя і балотныя птушкі. Палюбілі гэтае месца буслы. Першая частка сяла знаходзіцца пры самым лесе, другая — побач чыгункі, якая бяжыць з Гайнаўкі ў Сямяноўку і далей у Цісоўку. **(яц)**

## Гайнаўка прыгажэе

19 студзеня гэтага года наведаў я раён Гайнаўкі, у якім даўно не быў. Выбраўся на шпацыр па вуліцы Варшаўскай на вуліцу Каладзея. Адсюль да чыгуначнага вакзала рукой падаць. На Варшаўскай, як добра памятаю, быў стары брук. Зараз на вуліцы Варшаўскай і Каладзея роўны ды гладкі асфальт і пракладзены тратуары. На Каладзея толькі на адным баку.

Я пайшоў па тратуары доўгай вуліцы Каладзея. У шасцідзясятых гадах яна была пясчаная і пасля дажджоў стаялі вялікія лужы, якія трэба было абмінаць і абмінаць ды ісці пры самых тады драўляных платах. Я ішоў і ўглядаўся на вуліцы, якія прымыкаюць да вуліцы Каладзея, між іншым, Цесную, Вейскую, Верпахоўскага, Лугавую (Łąkowa) і Дзібуа (Duboisa). Усе яны маюць асфальтавыя маставыя.

Апошняя з іх, — як памятаю, — была раз'езджана і шырокая. Часцяком хадзіў я па ёй у 1965-1969 гадах. Мокрай вясной, летам і восенню тут амаль увесь час стаяла балота. Цяпер на вуліцы асфальтавая маставая. Тратуара няма. Паабапал ёсць шырокія абочыны і на іх „дзікія" аўтастаянкі.

У гэтым квартале горада прыгожыя аднапавярховыя драўляныя і мураваныя дамы. Панадворкі дагледжаныя і абгароджаныя. Усюды парадак. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# Нашы паэты галасамі вучняў

Ёсць новы дэкламатарскі ваяводскі конкурс! У пачатковай школе № 3 у Бельску 21 студзеня 2020 года прынялі ўдзел у конкурсе «Беларуская літаратура ў Польшчы» вучні пяці падляшскіх школ. Школьнікі дэкламавалі творы членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» (якое дзейнічае з 1958 года), а нават трапіўся верш народнай аўтаркі Валянціны Мядзведзь «Мая вёска» (выбрала яго Тацццяна Сахарчук). Мерапрыемства выдумала Іаанна Васілюк. Малодшым вучням (класы I–IV) спадабаліся вершы Віктара Шведа і Міры Лукшы ды верш пра вёску Міхася Андрасюка, вядомага празаіка. Вучні старэйшых класаў дэкламавалі творы Уладзіміра Гайдука і Міхася Шаховіча, найстарэйшых «белавежцаў» Віктара Шведа, Дзмітрыя Шатыловіча і Алеся Барскага, ды Надзеі Атрымовіч, Жэні Мартынюк і аднаго з наймалодшых аўтараў — Юркі Буйнюка, які вучыўся з Бельскім белліцэі, таксама як і член журы — Ян Чыквін. Сярод малодшых I месца атрымала дэкламацыя Зузанны Міранкевіч, II месца — Зосі Галубоўскай, III — Дамінікі Мартынюк. У старэйшай групе палічана за найлепшую інтэрпрэтацыя Нікі Паўлоўскай, на II месцы — Мартыны Герэз, III — Барташа Яканюка.



Бартак Яканюк, вучань восьмага класа, выступае як дэкламатар беларускай паэзіі ўжо з дзіцячага садка (№ 3 у Гайнаўцы) — у пяць гадоў меў першы выступ на сцэне з беларускім словам! Гэта ўжо юбілей — 10 гадоў! Цяпер ён вучыцца ў школе № 4 у Гайнаўцы. Ягоным настаўнікам роднай мовы з'яўляецца Ян Карчэўскі. Настаўнік запрапанаваў яму да інтэрпрэтацыі некалькі тэкстаў «белавежцаў», а дэкламатару даспадобы быў твор Юркі Буйнюка «Спадчына». Мама Бартка кажа, што яны выбралі гэты верш таму, што мае ён вялікае пасланне і глыбокую вымову. Праз год Бартак выбіраецца ў Гайнаўскі белліцэй, і выступаць будзе ўжо з ліцэістамі, з якімі працуе ягоны ўлюбёны настаўнік. «Бартак напэўна пойдзе ў беларускі ліцэй, — кажа з гонарам мама дэкламатара, вельмі густоўна, святочна апранутага, бо ж гэта вялікае свята — такі конкурс. — Бо ён чуе гэтую мову. Таксама прыгожа спявае. Не пакіне роднай мовы!»





**Міра ЛУКША**

## УВАГА КОНКУРС! № 05-20

**Рассыпаўся гарох на тысячу дарог, ніхто не пабярэ: Ні цар, ні царыца, ні пятух ні курыцца.**
**З.... на небе.**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 16 лютага 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на адгадку № 1: год і 12 месяцаў і 4 тыдні.**
**Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі** Клаўдзія Нікачук, Сара Дэрпенская, Марта Петручук **з Нарвы. Віншуем!**

Сафія ГРЫКА
ПШ у Міхалове

## Добрыя дні

Вельмі прыгожы сёння дзянёк,
Бо сонца схавалася і маю цянёк,
Можна б доўга спаць,
Але трэба было хутка ўставаць,
Мне снілася яда
І чароўная мана.

# Страказа, чараўніца



У дзяцінстве называлі мы іх «самалётамі» і з прыадкрытымі роцікамі гадзінамі назіралі за іх паветранымі манеўрамі і палётамі. Мова пра страказу — чароўны твор прыроды, які жыве ля вадаёмаў. Празрыстыя крылы страказы пераліваліся ў сонцы адценнямі фіялету, зелені і ружу. Здавалася, жывая кветка кружыць над вадой.

На свеце пражывае звыш 5680 відаў стракоз, а ў нашай краіне — 74. Самая вялікая жыве ў Паўднёвай Амерыцы, гэта Anax strenuus, якой разгортка крылаў займае ажно 19 см. Насякомыя жывуць ад шасці месяцаў да сямі гадоў, з чаго большасць часу праводзяць пад вадой у відзе драпежных лічынак.

У страказы вялікая галава з велізарнымі фасетачнымі вачыма, якія часта сыходзяцца на цемені і тры простых вочак. Дзякуючы гэтаму яны маюць амаль кругавы агляд і добра вызначаюць адлегласць да здабычы, якую праследуюць і хапаюць сваімі моцнымі сківіцамі.

Гэтае незвычайнае насякомае стала інспірацыяй для праектаў самалётаў, таму нашы дзіцячыя параўнанні былі трапныя і на месцы. Сёння прапануем вам маляванку са страказой, якая нakліча ўспамін цёплых азёр і запах вадзяной расліннасці.

**(гак)**

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Камета** — нябесная свяціла, якое рэдка з'яўляецца на зорным небе.

З'яўленне каметы, паводле нашых продкаў, абазначала няшчасце: вайну, голад або эпідэмію. Яе называлі ў народзе мятлой, бо яна быццам магла змесці шмат зямлі. Людзі назіралі за кшталтам злавеснага свяцілішча. Там, дзе ўладкаваўся хвост каметы — такі край будзе змецены.

Самай небяспечнай лічылі камету, якая па народных уяўленнях ператварвалася ў пошасць. Яна з'яўлялася ў выглядзе чорнай бабы і хадзіла ўначы па вёсцы ды ставіла чорныя крыжы на хатах. У такіх пазначаных хатах мелі памерці людзі.

Беларусы верылі, што чорную бабу можна падмануць і пазбегнуць яе прыходу, калі раней намалюеш крыж на хаце.

Людзі верылі ў такія каметы, якія немагчыма ўбачыць на небе, бо яны бачны толькі тады, калі пралятаюць праз сонца.

Верылі таксама, што сонечныя зацьменні адбываліся па прычыне каметы, якая хвастом затуляла сонца, аднак шкоды ад гэтага не было.

Часта ў выглядзе вогненных камет людзі ўяўлялі русалак, у якіх неўтаймаваны тэмперамент і яны гатовы «залашчыць» шмат мужчын.

Сярод беларусаў з Поўдня існуе павер'е, што калі прыйдзе такая страшэнная камета, якая спачатку затуліць неба, а потым ляжа на зямлі, то настане канец свету.

(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей»)

**(гак)**

Міхал АЛЕКСЯЮК
Тапаляны
ПШ у Міхалове

# Сон

Мне дзіўны сон прысніўся,
Я пасярэдзіне звяроў апыніўся,
Мяне коцікам зрабілі
І сябра сабаку прыдзялілі,
Мы разам хадзілі,
Мы разам блудзілі,
Нарэшце сям'ю знайшлі
І ў цёплы дом увайшлі.

## Польска-беларуская крыжаванка № 05-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 1-2020:**

Клан, груша, слых, на, альбом, мох, руда, Тува, хам, мора, хмара. Ніга, то, амур, слова, альха, грыб, хор, муха, дар, Алабама.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Караліна Казбярук, Міша Клімовіч, Кшысь Дзеніс** з Міхалова, **Клаўдзія Казлоўская, Дар'я Радзівончык** з Нараўкі, **Оля Хіліманюк, Оля Мадзалеўская** з Нарвы, **Алівія Анапюк, Артур Рэнгайла, Нікіта Кумейка** з Орлі. Віншуем!



Лёсы Беларусаў Беласточчыны

# Людзі ратаваліся лоўляй рыбы...

**Краязнаўца Мікалая Быхаўцава з Ваўкавыска ведаю даўно. Не раз з ім наведвалі розныя гісторыка-краязнаўчыя канферэнцыі, сустрэчы, прэзентацыі. Праўда, ён не лезе ў вялікія даследчыкі, але ў маштабах свайго рэгіёна, у межах былога Ваўкавыскага павета, ён даследчык вельмі сур'ёзны, дасканалы і апантаны. Мікалай Быхаўцаў гісторыю сваёй Ваўкавышчыны ведае, як кажуць у народзе, „на зубок”. Лепшага даследчыка Ваўкавышчыны ў Беларусі і ў Польшчы няма і, відаць, не было раней і больш не будзе ніколі.**



Сям'я Быхаўцаў

Сам спадар Мікола краязнаўствам займаецца даўно. Калі выдавалася незалежнае выданне „Местная газета” ў Ваўкавыску, ён пісаў туды артыкулы пра знакамітых асоб свайго рэгіёна, пра гісторыю вуліц, пра ўсе тыя падзеі, якія адбываліся на яго радзіме за апошнія 100-300 гадоў. Потым сам выдаваў краязнаўчы часопіс „Ваўкавышчына”. А ў вольны час наведваў архівы і бібліятэкі Беларусі, Польшчы, Расіі, Літвы. І ўсё шукаў і шукаў звесткі пра свой родны край, а таксама пісаў і пісаў матэрыялы. За гэты час з-пад яго пяра выйшла шмат даследаванняў. А ўсё напісанае лягло на старонкі ягоных кніг. Атрымаліся не проста кнігі даследаванняў, а цэлыя манаграфіі на асобныя тэмы. Шчыра скажу, што гэта кандыдацкія і доктарскія дысертацыі. Таму сёння смела можна назваць Мікалая Быхаўцава з Ваўкавыска тройчы доктарам гістарычных навук. А тэмы ягоных кніг даволі сур'ёзныя — „Гісторыя Касцёла на Ваўкавышчыне” (752 старонкі), „Паўстанне 1863-1864 гадоў у Ваўкавыскім павеце” (344 старонкі), „Ваўкавыск савецкі (1939-1941, 1944-1953)” (774 старонкі), „На Волковысском направлении: 22-29 июня 1941” (492 старонкі), „Нямецкая акупацыя Ваўкавышчыны (1941-1944)” (414 старонак), „Волковыщина: 120 лет в Российской империи (1795-1915)” (805 старонак), „История просвещения на Волковыщине (до 1915 года)” (336 старонак) і іншыя манументальныя працы даследчыка з Ваўкавыска. І ўсе яны пабачылі свет асобнымі кнігамі і сёння іх ужо немагчыма нідзе набыць, бо гэта даволі рэдкія выданні. Вось каму трэба даваць у Беларусі дзяржаўныя прэміі і ордэны. Але ўлада такіх таленавітых людзей не заўважае, ігнаруе, абыходзіць бокам.

Згадку пра Мікалая Быхаўцава я пачаў невыпадкова. Справа ў тым, што мама яго Ніна Жамойда была родам з Беласточчыны. У сям'і Антона і Ганны Жамойдаў, акрамя Ніны, нарадзілася яшчэ чацвёра дзяцей. Ніна была самая старэйшая — 1926 года нараджэння, Алёна — 1929 года нараджэння, Марыя — 1931 года нараджэння і брат Мікалай — 1932 года. Родам сям'я Жамойдаў, па словах Мікалая Быхаўцава, з вёскі Востраў, што на захад ад мястэчка Крынкі. Але і тут ёсць недакладнасці, бо побач адна ад адной знаходзяцца яшчэ дзве вёскі — Востраў Паўднёвы і Востраў Паўночны, а на паўночны ўсход ад іх — вёска Астравок. Сястра Мікалая Быхаўцава, Людміла, сцвярджае, што вёска называлася Востраў, але якая з іх дзвюх — невядома.

Да 1939 года ўсе дзеці Жамойдаў наведвалі польскую школу. Але паспяхова яе скончыла толькі старэйшая дачка Ніна. А калі прыйшла савецкая ўлада на Беласточчыну, то ў савецкай школе вучыліся ўсе, таму што добра маглі чытаць і пісаць.

Падчас Другой сусветнай вайны вяскоўцы выбралі Антона Жамойду солтысам вёскі. Ён людзям нічога кепскага не зрабіў ніколі, бо калі б нешта было, то Антона хутка арыштавалі б камуністычныя польскія ўлады. Але для польскай улады пасля вайны падобныя аўтарытэтныя асобы з'яўляліся важным аргументам для перасялення. Па словах Мікалая Быхаўцава, ягоныя дзед з бабуляй ніколі не пакінулі б Беласточчыны, калі б не пагрозы з боку польскіх нацыяналістаў, якія пагражалі нават знішчыць усю сям'ю, калі тыя надумаюць застацца ў Польшчы. І пагрозы не былі пустымі словамі, бо падобныя выпадкі здараліся ў іншых вёсках. Таму сям'я Антона Жамойды ў 1946 годзе пакінула родную Беласточчыну. Ехалі чыгункай. „Памятаю толькі, як маці расказвала, як на мяжы ў іх рабілі ператрус савецкія пагранічнікі. У клубку з ніткамі былі схаваны нейкія залатыя рэчы (дакладна не помню якія), дык пагранічнікі знайшлі іх, пратыкаючы клубок спіцаю. Залатыя вырабы канфіскавалі”, — распавядае Мікалай Быхаўцаў.




Адна з кніг Мікалая Быхаўцава



Мікалай Быхаўцаў

Прывезлі сям'ю Жамойдаў у вёску Заспа (цэнтр сельсавета) Рэчыцкага раёна, якая знаходзіцца за 15 км на поўдзень ад Рэчыцы, на чыгуначнай лініі Калінкавічы—Гомель. Побач з вёскай працякае Старыца і пойма ракі Днепр. Варункі жыцця тут аказаліся вельмі цяжкімі, бо гэтаму спрыяла мінулая вайна ды калгасная сістэма. Панавалі там галеча і голад, ад якіх людзі ратаваліся лоўляй рыбы з Дняпра. Дабывалі яе з дапамогай выбуховых прадметаў, якіх пасля вайны там хапала. Такая лоўля была вельмі небяспечнай. А аднойчы сын Мікалай трапіў у ледзяную ваду, ад чаго моцна прастудзіўся. Усё гэта паспрыяла таму, што Антон Жамойда дабіўся ад улад пераезду сваёй сям'і ў Заходнюю Беларусь.

Просьбу Антона Жамойды задаволілі, і сям'я напрыканцы 1946 года пераехала ў вёску Козы Горы, што каля Ваўкавыска. Невялікая драўляная хатка — стала іх роднай. Хату пакінулі перасяленцы, якія выехалі ў Польшчу. Маленькае жыллё з адным пакойчыкам (15 кв. метраў) і невялікай кухняй, з'яўляліся для іх своеасаблівай радасцю. Але радаваліся нядоўга. Ад прастуды, падхопленай яшчэ на Гомельшчыне падчас лоўлі рыбы на Дняпры, у 1947 годзе памірае адзіны сын Жамойдаў Мікалай. Антон моцна перажываў страту сына, таму хутка памёр і сам. Ён моцна перажываў і вінаваціў сябе за тое, што перавёз сям'ю ў „савецкі рай”, у якім на яго сям'ю звалілася шмат гора і выпрабаванняў. Хаця і заставацца жыць на Беласточчыне было таксама немагчыма.

У Ваўкавыску сёстры Алёна і Марыя Жамойды ўладкаваліся на працу мулярамі-штукатурамі ў чыгуначную будаўнічую арганізацыю. А іх старэйшая сястра Ніна — у камеру захоўвання рэчаў на чыгуначным вакзале. „У мястэчка Індура Гродзенскага раёна пераехала і сям'я брата бабы Ганны. У 1959 годзе я з бацькамі быў там на вяселлі мамінай стрыечнай сястры”, — прыгадвае Мікалай Быхаўцаў.

Ніна Жамойда ў Ваўкавыску пазнаёмілася з сяржантам Савецкай Арміі беларусам Іванам Быхаўцавым, які пасля службы ехаў дамоў на Гомельшчыну, дзе бацькі не бачылі сына з 1940 года. Так лёс звёў двух маладых людзей, для якіх Ваўкавыск назаўсёды стаў родным горадам. У Ніны Жамойды і Івана Быхаўцава нарадзіўся сын Мікалай і дачка Людміла. Што датычыць фотаздымкаў, дык, па словах Мікалая Быхаўцава, ніякіх фотаздымкаў і дакументаў з тых часоў не захавалася. „Наогул, фотаздымкаў з вёскі Вострава я ніколі не бачыў, як і не бачыла іх мая старэйшая сястра Людміла. Выходзіць, што іх наогул не прывезлі, альбо яны загінулі падчас рэпатрыяцыі і пераездаў”, — уздыхнуў Мікалай Іванавіч — унук Антона Жамойды.

У сямейным архіве Быхаўцаў захаваўся адзін здымак, калі сям'я ўжо пражывала ў Ваўкавыску. На здымку — Ніна Жамойда з мужам Іванам, сынам Мікалаем і дачкой Людмілай, 1956 год.

І апошняе. Сям'я Жамойдаў ніколі больш не сустракалася са сваімі сваякамі і вяскоўцамі. Хаця да іх маленькай радзімы было рукой падаць — усяго каля 60 кіламетраў, але савецкая ўлада не дазволіла ім перасякаць мяжу.

Дарэчы, у тыя 1940-я гады ў Гродзенскую вобласць з Польшчы перасялілася 1044 сям'і з 3028 беларусамі. Пра гэта паведамляе Мікалай Быхаўцаў у сваёй кнізе „Ваўкавыск савецкі (1939-1941 і 1944-1953)”, выдадзенай у Мінску ў 2017 годзе.

Сяргей ЧЫГРЫН

# З архіваў



**Юлія Маргарыта БЯГАНСКАЯ**
Васількаў

Яны нават не ведалі, як яе завуць. Забралі дзяўчыну з блакітнымі вачыма і чырвонымі вуснамі з вуліцы, дзе стаялі дэманстранты, перавезлі яе на камісарыят і трымалі там ужо восем гадзін.

І не ведалі нават, як гучыць яе імя.

Але было ў ёй штосьці такое нейкае страшнае, нейкае не з гэтага свету, штосьці, што нават службістам не дазваляла яе ўдарыць, а хацелі, ох, як вельмі яны хацелі, каб з гэтага белага як снег твару паплылі кроплі чырвонай крыві.

Потым яны пазванілі па каменданта, вялікага мужчыну, які крыху нагадваў мядзведзя. Прысеў ён на крэсла і ўключыў лямпу проста ў твар дзяўчыны, якая ціхенька засмяялася.

— Як цябе завуць? — запытаўся.

— Маё імʼя ёсць рознае ў розных краінах.

— Колькі табе гадоў?

— Я старая як свет, а ў гэтым самым часе маладая як мінулая секунда.

— Адкуль ты прыйшла? Твой акцэнт не з гэтай краіны.

Дзяўчына паправіла сваю белую сукенку з чырвоным паскам пад грудзьмі і пахілілася так, што амаль датыкала сваім маленькім носам апухлы твар каменданта.

— Паходжу я з зямлі радзімай, невядомай і забытай усімі, каханай мною.

— Кім ты..?

— А кім ты хочаш, каб я была? У адной хвіліне я магу быць дачкой міністра, у наступнай — тваёй каханкай з балета, а ў яшчэ іншай — толькі ветрам, які аплывае твой дом, жонкай, якая...

Камендант хацеў, каб яна адсунулася, каб перастала гаварыць, замахнуўся на яе, рука ўвайшла ў кантакт з белым тварам дзяўчыны, кроў з носа паплыла на стол густым струмянём... А дзяўчына смяялася гучна, гучна як званы на царкоўнай вежы ў вялікае свята, а на стале, дзе ўпала кропля яе крыві, там адразу заквітнелі васількі, ружы, дзяцеліна...

Камендант ведаў таму, што дзяўчына не паходзіць з гэтага свету, а тая думка спрычынілася да таго, што яго ахапіў такі страх, што валасы сталі рабіцца белымі і праз секунды ён быў увесь сівы. Ён сарваўся са свайго крэсла, перавярнуў лямпу, дрыжачым голасам закрычаў да падкамандных, каб яны сталі страляць, каб забіць гэтую... гэтую ненатуральную істоту, гэтую пачвару, якая смяялася да яго з-за заслоны доўгіх, светлых як лён валасоў, але тыя былі ўжо даўно па-за камендатурай. Паўцякалі з крыкам пра незвычайнае.

Дзяўчына глянула на яго — агонь і гнеў у вачах, чырвоная кроў на белым твары і на белай сукенцы, калі падыходзіла бліжэй і бліжэй да гэтага вялікага цела, зніччанага гадамі піцця.

— Маё імя — рознае ў розных краінах, — пачала моцным голасам, які рэзаніраваў гучна ва ўсім будынку. — Я старая як свет, а ў гэтым самым часе маладая як мінулая секунда. Я была першая паміж людзьмі, калі яны яшчэ не ведалі, як распаліць агонь, была першая паміж людзьмі, калі пачаліся войны. Я вяла іх на барыкады. Я забівала дыктатараў. Гэта пра мяне пісалі песні, пра мяне складалі паэмы, пра мяне малявалі вялікія карціны! — хапіла яго за горла, маленькія даломі замкнёныя на шырокай шыі, твар каменданта чырвоны, абрамлены белымі валасамі... — Таму, што маё імя — Свабода. Гэта я адчыняю дзверы да неба для добрых людзей. Гэта я пасылаю ў пекла такіх, як ты.

З гэтымі словамі сціснула горла каменданта з вялікай сілай.

Паднялася з новай энергіяй і пайшла, каб выпусціць студэнтаў, якіх забралі разам з ёю з дэманстрацыі.

## Дэбют

# Памятка



**Ірэна ЛУКША**
Гайнаўка

Марэк і Тэрэса ледзь перажылі ваенны кашмар у Варшаве. Іх бацькі, браты і сёстры загінулі. Маладыя сустрэліся на Бялянах і рашылі пабрацца шлюбам. Вяселле было вельмі скромнае. Сваячка Тэрэсы дала ёй сваю шлюбную сукенку, якая цудам ацалела з пажару камяніцы, у якой жыла да вайны і ў час акупацыі. Муж сваячкі даў Марку касцюм на шлюб. На шлюбе і вяселлі было толькі чатыры асобы — сваячка Тэрэсы з мужам і сяброўка маладой, якая была сведкай, сябар маладога — сведка. На вясельны абед быў булён і мяса з варанай куркі. Маладажоны сядзелі з гасцямі чатыры гадзіны, усё ўспамінаючы сваіх трагічна загінуўшых блізкіх, пасля развіталіся.

Пасля вяселля дзень ішоў за днём. Тэрэса пачала працаваць прадаўшчыцай. Марэк быў вадзіцелем у пякарні. Ад панядзелка да пятніцы па дзесяць гадзін былі на рабоце, лічыўшы з даездам і прыездам. У суботу — восем гадзін. У нядзелю адпачывалі. Калі Тэрэса зацяжарыла, абое цешыліся, што будзе поўная сямʼя. Маладая мама ў час цяжарнасці адчувала сябе добра. Нарадзіла сына. Назвалі яго Мечыславам.

Хрэсьбіны былі таксам скромныя, як шлюб і вяселле. Былі тыя самыя госці. Сваячка Тэрэсы была кумой, бо сяброўка была ў той час цяжарная — заўсёды гаварыць, што цяжарнай жанчыне дзіцяці нельга хрысціць, бо яго жыццё будзе вельмі цяжкае. Муж сяброўкі быў у камандзіроўцы і не мог прысутнічаць ва ўрачыстасці. Кумам быў сябар Марка, які яшчэ не знайшоў сабе жонкі.

На мацярынскім водпуску Тэрэса навучылася шыць і дарабляла да іх скромнай зарплаты. Пасля водпуску малога Мечыслава перад работай вазіла ў яслі, а пасля работы забірала. Мечыслаў рос здарова. Калі яму споўніўся год, пачаў хадзіць і гаварыць. Пасля пайшоў у дзіцячы садок. Часта пытаўся ў бацькоў, чаму ў яго няма сястры і брата. На жаль, Тэрэса не магла больш зацяжарыць. Калі ўрэшце пайшла да лекара і спецыялісты яе дакладна агледзелі, аказалася, што мае хворыя жаночыя органы. Неадкладная была аперацыя. Пасля наркозу Тэрэса не прачнулася. Пяцігадовы Мечыслаў стаў паўсіратой, а Марэк маладым удаўцом.

Калі мінуў год ад смерці жонкі, сябры сталі сватаць Марка. Сваталі яму то маладых удоў, то разводак, то дзяўчат з бясшлюбнымі дзецьмі. Марэк гаварыў усім, што больш жаніцца не будзе, сам будзе гадаваць сына.

Мечыслаў пайшоў першы дзень у школу, і здарылася трагедыя. Пʼяны вадзіцель легкавушкі ўдарыў у самаход Марка. Абое шафёры загінулі на месцы.

Сямігадовы Мечыслаў застаўся круглым сіратой. Не расказаць, не апісаць, як плакаў хлопчык пасля смерці бацькі. Сваячка Тэрэсы Адэля з мужам Баляславам рашылі ўзяць хлопца да сябе. У іх не было родных дзяцей.

Мечыслаў добра вучыўся і быў паслухмяным хлопцам. Адэля і Баляслаў займаліся прыватным гандлем. Жылі ў невялікім доме на ўскраіне Варшавы. Мечыслаў памагаў сваім прыёмным бацькам раніцай завезці тавар на рынак і раскласці на латках, увечары забраць тавар з рынку і прывезці дадому. Так міналі дні, тыдні, месяцы, гады. Хлопец паспяхова кончыў тэхнікум і бухгалтарскія курсы, стаў працаваць бухгалтарам на адным прадпрыемстве. Так, як раней, дапамагаў бацькам — ранкам вёз тавар на рынак, вечарам забіраў непрададзены тавар дадому...

У суботу вечарам на забаве сустракаўся з Монікай. Закахаліся ўзаемна. Закаханая пара рашыла пабрацца праз два гады на другі дзень Каляд. Сёлета на другі дзень свята рашылі зрабіць заручыны. Мечыслаў хацеў паведаміць аб гэтым сваіх прыёмных бацькоў, а Моніка сваіх бацькоў і ўсіх сваякоў. Пакуль дайшло да размовы аб планаваных заручынах, Баляслаў сказаў, каб Мечыслаў у нядзелю нікуды не выходзіў з хаты, бо на абедзе будуць госці і ён штосьці важнае ўсім скажа. У нядзелю прыйшлі два браты Баляслава з сямʼямі і дзве сястры таксама з сямʼямі. Дом быў поўны людзей. Спачатку зʼелі абед, пасля стаў гаварыць гаспадар:

— Я рашыў падзяліць сваю маёмасць. Мой дом пасля смерці маёй і маёй жонкі будзе старэйшаму брату Міраславу. Участак пад будову дома атрымае малодшы брат Тадэвуш. Старэйшая сястра Яніна забярэ кухонную і пакаёвую мэблю. Малодшая сястра месца на рынку, усе тавары і вазкі для іх вязення. Мечыслаў няхай знойдзе сабе кватэру. Мы яго гадавалі і вучылі. Было яму ў нас добра. Меў ежу і вопратку.

— Чаму ты так усё дзеліш? — пыталіся госці.

— Мы ўжо старыя людзі і сталі кепска сябе адчуваць. Смерць можа прыйсці хутка і таму хачу сказаць, што каму хачу даць.

— Чаму Адэля нічога не гаворыць? — спыталася Марыся, малодшая сястра Баляслава.

— Маёй маёмасці ўжо няма. Я ў пасагу ад бацькоў атрымала золата, якое ў час акупацыі аддала за ежу, — сказала з вялікім сумам Адэля.

— Я хачу сказаць, — азваўся Мечыслаў, — што маю дзяўчыну і хачу з ёю заручыцца на другі дзень Божага Нараджэння. Праз два гады ад заручын плануем шлюб.

— Калі так, то я табе куплю заручальныя і шлюбныя пярсцёнкі, — сказаў Баляслаў, — але больш ад мяне нічога не чакай.

— Дзякую вам за ўсё, — шчыра адказаў Мечыслаў.

У вялікім пакоі ў доме Баляслава на сцяне вісела вялікая залёная карціна ў шырокіх, багата аздобленых зялёных рамах — малюнак лесу. Аднойчы Мечыслаў выпадкова падгледзеў, як прыёмны бацька адкрывае рамы карціны і хавае туды долары. Аб убачаным нічога не сказаў.

— Цікава, чаму Баляслаў нічога не казаў, для каго будзе карціна? — не раз думаў Мечыслаў...

Два месяцы пасля заручын Мечыслава забралі ў армію. Два гады служыў у Торуні. Прыязджаў на водпускі і заўсёды першых наведваў сваіх прыёмных бацькоў, пасля ішоў у хату нарачонай. Пасля службы ў арміі хлопец вярнуўся да бацькоў. Зноў працаваў бухгалтарам у тым самым прадпрыемстве. Год пасля яго вяртання з арміі памерла на інфаркт Адэля. Баляслаў сурова прыказаў Мечыславу, каб хутка пашукаў сабе кватэру і выйшаў з дому, бо ён таксама адчувае сябе дрэнна і можа памерці, а тады яго ны брат Міраслаў выганіць Мечыслава проста на вуліцу. Хлопец знайшоў сабе пакой у рабочым інтэрнаце.

Праз паўгода Баляслаў памёр. Мечыслаў купіў вянок і прыйшоў на пахаванне. Пасля трызны папрасіў прысутных сваякоў Баляслава, каб аддалі яму на памятку карціну з лесам.

— Будзе яна прыгадваць маіх прыёмных бацькоў і ўсе шчаслівыя дні, якія я пражыў з імі, — сказаў са слязьмі ў вачах Мечыслаў.

Усе прысутныя згадзіліся.

Мечыслаў зняў са сцяны карціну, загарнуў яе ў паперу. Яшчэ раз падзякаваў за падарунак і развітаўся.

Праз месяц купіў сабе прыгожы дом на другой ускраіне Варшавы. Перастаў працаваць бухгалтарам. Купіў аўто і стаў ездзіць таксістам, зарабляючы намнога больш грошай. Вяселле было пышнае і адбылося ў доме маладога.

Браты і сёстры яго прыёмнага бацькі даведаліся аб гэтым і абавязкова хацелі дапытацца, адкуль ён на ўсё гэта меў такія грошы. Прыехалі да яго на стаянку таксі і сталі распытваць, за што ён так хутка разбагацеў. Мечыслаў з усмешкай расказаў пра сапраўдную каштоўнасць карціны. Радня Баляслава загадала, каб ён вярнуў ім грошы, праклінала яго і жадала такой смерці, якой памёр яго ны бацька.

Мужчына не слухаў іх і не пераймаўся іх праклёнамі. Грошай нікому не аддаў. Да пенсіі быў таксістам. Яго сыны і дочкі кончылі ўніверсітэты і працавалі на добрых пасадах.

5☞ працяг

# Скульптурны пленэр

ўспрымаць па-свойму. Так было ў час адкрыцця пленэрнай выставы, калі сабраныя па-рознаму ацэньвалі працы скульптара Аляксандра Лазеркі з Вістыч (распаложаных непадалёк Брэста), якога працы знаходзяцца ў прыватных калекцыях у замежжы. Выканаў ён выяву «Анёла-ахоўніка» і па-свойму паказаў Белавежскую пушчу. Мастак з Беларусі ўдакладніў, што цяпер выконвае ў дрэве мастацкія працы ў стылі мадэрн з мэтай, каб кожная асоба магла па-свойму інтэрпрэтаваць тое, што ўбачыць на яго работах. Разьбяр Аляксандр Лазерка ў Вістычах вядзе мастацкую майстэрню, у якой займаецца з вучнямі. Арганізаваў там музей гісторыі. Мастак з Вістыч таксама малюе, выконвае графіку і выявіў радасць ад наладжання супрацоўніцтва з Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы, дзе можа прэзентаваць сваю разьбу.

Мясцовым удзельнікам пленэру быў гайнавянін Марк Сапёлка. Нарадзіўся ён у Нараўцы, пазней жыў з бацькамі ў суседнім Міклашэве, покі не пераехаў у Гайнаўку. Раней прымаў удзел у многіх мастацкіх пленэрах у гмінах Гайнаўскага павета, а таксама маляваў падчас пленэраў у Польшчы, Беларусі і Расіі.

— Падчас разьбярскага пленэру ў Гайнаўскім белмузеі я многаму навучыўся. Можна сказаць, што пачаў вучыцца разьбярыць у мастака з-пад Брэста Аляксандра Лазеркі ў час сёлетняга і папярэдняга пленэру каля Дома культуры ў Гайнаўцы. Скульптар з Беларусі на практыцы вучыў мяне падставам разьбы па дрэве. Маім настаўнікам быў таксама Анатоль Туркоў. Атрымаў я ад іх многа парад і выкарыстаў іх у творчай працы, — расказаў вядомы гайнаўскі жывапісец Марк Сапёлка.

Прыклады новастворанай разьбы размяшчаюцца ў выставачнай зале. На сценах побач скульптур — развешаны якраз жывапіс Марка Сапёлкі. Карціны апынуліся на экспазіцыі ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва».

— У Марка Сапёлкі ёсць талент да разьбы і павінен яго разгортваць, укладваючы сэрца і павышаючы свае ўмеласці, — заявіў Аляксандр Лазерка.

Гайнаўскі скульптар Юры Івацік быў таксама захоплены разьбярскімі працамі пачаткоўца Сапёлкі. Адзначыў высокі ўзровень разьбы ўсіх удзельнікаў пленэру і так, як іншыя мае суразмоўцы, задумваўся над пабачаным на працах Аляксандра Лазеркі.

— Наша малая айчына ёсць у маім сэрцы. Мне блізкія і наша прырода, і беларускасць, якую тут у музеі відаць на кожным кроку. Гэтыя матывы я запрэзентаваў на сваіх працах. Калі я працаваў у пагранічнай ахове, прыходзілася хавацца ў такіх месцах, каб мяне не было відаць, а я добра бачыў тое, што адбываецца ў наваколлі нашай мяжы. Я, непрыкметны тады, мог наглядаць за прыродай. Штодзённы кантакт з натурай узмацняў любоў да пушчанскай прыроды. Зрабіў скульптуру прадрэва, выканаў разьбу бабулі з Падляшша — сімвала нашай традыцыі, перадаванай з пакалення ў пакаленне. У мінулым вучыўся я ў тэхнікуме ў Супраслі і жыў у былым манастырскім будынку, побач якога на маіх вачах пачынала адбудоўвацца Благавешчанская царква. Маім настаўнікам праваслаўнай рэлігіі быў пакойны ўжо айцец Гаўрыіл. Яму прысвяціў я чарговую працу — скульптуру манаха-пчаляра, — сказаў мастак Марк Сапёлка.

Мікола Корх з Краськаўшчыны, якую мясцовыя называюць Кархамі, выконваў разьбу па дрэве на Агляды непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, за што атрымліваў узнагароды. У 2013 годзе ў Гайнаўскім белмузеі ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва» адкрылася яго выстава. Мікола Корх зрабіў многа драўляных аздабленняў дамоў, з выкарыстаннем мясцовых узораў, выконваў драўляныя крыжы і мастацкія працы з выкарыстаннем карэння. У больш адлеглым мінулым быў аўтарам помнікаў, якія ставіліся ў публічнай прасторы. У рамках разьбярскага пленэру ў Белмузеі выканаў скульптуру «Асочніка» — колішняга ахоўніка Белавежскай пушчы.

— Мы яшчэ ў гады студэнцтва з сямейнікамі і знаёмымі пачалі збіраць этнаграфічныя экспанаты, якія склалі экспазіцыю ў доме і на панадворку ў Якубове. Ладзілі там таксама выставу фатаграфій, а пазней паўстала ідэя іншай дзейнасці. Культурнае аб'яднанне «Тыбель» мы заснавалі дзеля арганізавання культурных мерапрыемстваў. Да гэтай пары аб'яднанне было найбольш вядомае тым, што ладзіла фестываль «Ракавіска» ў Гайнаўцы. Задачай нашага, па сутнасці сямейнага, аб'яднання з'яўляецца злучэнне, аб'яднанне праз культуру і яе розныя віды — мастацтва, ці музыку — нашага грамадства так, як у мінулым тыбель злучаў у драўляным доме яго часткі, — удакладніла сакратар аб'яднання «Тыбель» Агнешка Ціханюк.

У час вернісажу мелодыі да беларускіх песень на акардэоне зайграў выпускнік Гайнаўскага белліцэя Яцак Дружба, акцёр Беларускай тэатральнай групы, якая дзейнічае пры Гайнаўскім белмузеі.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**




Калі разважаць пра беларускую грамадскую супольнасць, то яе можна падзяліць на дзве часткі. Першая ўяўляе з сябе вялікія па колькасці сябраў арганізацыі, якія падтрымліваюцца дзяржаўнымі ўладамі. Гэтыя арганізацыі, дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы, здолелі захавацца аж ад савецкіх часоў. Другая частка ўяўляе з сябе сапраўды незалежныя арганізацыі, якія жывыя, бо дзейнічаюць, адгукаючыся на рэальныя патрэбы людзей. Праўда, з фінансамі ў іх не вельмі багата.

Паколькі ў цяперашні час зарэгістраваць у Беларусі новую грамадскую, не праўладную арганізацыю практычна немагчыма, бо ўлады не даюць на гэта дазволу, актыўныя людзі пачалі гуртавацца вакол так званых ініцыятыў. Гэтыя ініцыятывы з'яўляюцца па сутнасці тымі самымі незалежнымі грамадскімі арганізацыямі, аднак з менш устойлівай будовай і кіраўніцтвам. Тым не менш мэты, якія яны ставяць перад сабой, даволі сур'ёзныя.

Адным з прыкладаў такой грамадскай ініцыятывы, што нядаўна ўзнікла ў Мінску, можна назваць гарадскі праект «Дбаю». Інфармацыя пра яго месціцца ў інтэрнэце на сайце **http://dbaju.by.**

„350 актыўных гараджан ды гараджанак запускаюць унікальны для Беларусі сацыяльны бізнес, які будзе зарабляць на некамерцыйныя гарадскія праекты ды ініцыятывы. Далучыцца можа кожны", — паведамляецца на галоўнай старонцы сайта.

Як распавядаюць актыўныя грамадзяне, што хочуць займацца сацыяльным бізнесам, праект «Дбаю» — гэта гарадскі рэстаран і пляцоўка для івэнтаў. 70% чыстага прыбытку будуць накіроўвацца на падтрымку гарадскіх праектаў ды ініцыятыў. Астатнія 30% — прафесійным рэстаратарам, якія адказваюць за камерцыйную паспяховасць праекта.

„Стваральнікамі і стваральніцамі праекта стануць 350 сацыяльна актыўных людзей горада, якія публічна падтрымаюць праект аднолькавымі ўнёскамі ў эквіваленце 1000 долараў. Потым менавіта гэтыя людзі рэгулярна будуць вызначаць, якія ідэі і гарадскія праекты будуць падтрыманыя", — адзначаецца на сайце.

Калі нехта захоча зрэалізаваць нейкую сваю задумку адносна паляпшэння жыцця ў Мінску, ён можа накіраваць сваю ідэю вышэйпамянёным стваральнікам „Дбаю". Праўда, такая магчымасць з'явіцца, калі рэстаран і пляцоўка агульнагарадскога праекта пачнуць сваю працу. Потым пляцоўкай для івэнтаў „Дбаю" змогуць бясплатна карыстацца некамерцыйныя праекты ды ініцыятывы. А падтрымаць сацыяльныя праекты можа кожны, проста наведаўшы рэстаран. „Прыемна абедаць ці піць каву і разумець, што добрых спраў у Мінску становіцца больш", — кажуць актывісты.

Яны адзначаюць, што пазычылі ідэю стварэння такой узаемадапаможнай прасторы ў іншых гарадах. „Мы натхніліся ўжо існуючымі праектамі Urban Space 100 у Івана-Франкоўску, Urban Space 500 у Кіеве, 4City у Адэсе і Vmeste у Маскве", — гаворыцца на сайце.

„Праект «Дбаю» — сацыяльны бізнес, які зарабляе на падтрымку гарадскіх праектаў ды ініцыятыў. Вяртанне ўкладзеных сродкаў заснавальнікам ды заснавальніцам не прадугледжана", — адзначаецца на сайце.

У выніку рэалізацыі задуманага, верагодна, што тыя, хто выступае арганізатарамі праекта, выканаюць яго місію і створаць супольнасць аднадумцаў, якія ў супрацы развіваюць інклюзіўны гарадскі асяродак.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

# 85 гадоў з дня нараджэння

# Эрнста ЛЯЎКОВА

Беларускі геолаг, краязнавец Эрнст Ляўкоў нарадзіўся ў Мінску 30 студзеня 1935 г. У 1953 г. з залатым медалём скончыў школу і паступіў на геолага-геаграфічны факультэт БДУ. Атрымаў дыплом з адзнакай па спецыяльнасці „геалогія і разведка радовішчаў карысных выкапняў". З 1958 г. працаваў у Беларускім навукова-даследчым геолагаразведачным інстытуце, з 1968 г. — загадчык сектара геалогіі чацвярцічных адкладаў, з 1974 г. — загадчык аддзела рэгіянальнай геалогіі. З 1977 г. працаваў у Інстытуце геалагічных навук АН БССР, у 1987 г. узначаліў лабараторыю геакартаграфавання (пазней — неагеадынамікі). Доктар геолага-мінералагічных навук (1981), прафесар (1984). Член-карэспандэнт Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў у Санкт-Пецярбургу (1994) і Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (1994).

Ляўкоў даследаваў у Беларусі рэгіянальную геалогію, рэльеф і карысныя выкапні. Звярнуў увагу на важную ролю тапанімікі пры рэканструкцыі гістарычнага мінулага. Даследаваў геалагічную будову і фармаванне плошчы пашырэння дагістарычных крэменездабыўных шахт і майстэрань па апрацоўцы крэменю ў Ваўкавыскім і Мастоўскім раёнах. Першыя дваццаць гадоў навуковай працы былі прысвечаны пераважна вывучэнню заканамернасцей фармавання карысных выкапняў, звязаных з адкладамі кайназою (пяскі, пясчана-жвіровы матэрыял, гліны, карбанатная і фарбавая сыравіна, буры вугаль і інш.), і складанню прагнозаў для іх пошукаў. Матэрыялы для манаграфіі „Пески Белоруссии и их промышленное использование" (Мінск, 1961), напісанай у суаўтарстве, сталі асновай кандыдацкай дысертацыі, якую ён абараніў у 1965 годзе. Пад яго кіраўніцтвам складзены літолага-палеагеаграфічныя і іншыя карты па палеагене, неагене і антрапагене, многія з якіх пазней увайшлі ў Нацыянальны атлас Беларусі (2002). З удзелам Ляўкова былі ўпершыню распрацаваны неатэктанічная карта і карта неатэктанічнага раянавання Беларусі маштабу 1 : 500000.

Ляўкоў выканаў фундаментальныя даследаванні па літалогіі, стратыграфіі, неагеадынаміцы кайназою, распрацаваў новы фундаментальны кірунак у чацвярцічнай геалогіі — гляцыятэктоніку. У манаграфіі „Гляциотектоника" (Мінск, 1980) на багатым фактычным матэрыяле, сабраным у экспедыцыях па Беларусі, апісаў працэсы, звязаныя з уздзеяннем ледавікоў на горныя пароды, на фармаванне радовішчаў карысных выкапняў, даследаваў механізм узнікнення ледавіковых дыслакацый і іх пашырэння па тэрыторыі і ў тоўшчы кайназойскіх адкладаў, паказаў сувязь такіх форм з геалагічнай будовай розных рэгіёнаў. У 1981 г. па гэтай манаграфіі абараніў у Маскве доктарскую дысертацыю.

Вучонага таксама цікавілі пытанні сейсмабяспекі тэрыторыі Беларусі, аховы прыроды, гісторыі геалагічнай навукі, геалагічнай адукацыі. Ідэі Ляўкова ў галіне неатэктонікі ляглі ў аснову міжнароднага праекта „Неагеадынаміка Балтыі", які быў прыняты да распрацоўкі пры падтрымцы ЮНЕСКА.

Эрнст Ляўкоў вывучаў культавыя камяні, рэлікты паганства ў сучасных пакланеннях і ахвяраваннях каменю. Па выніках шматгадовага вывучэння культавых валуноў Беларусі напісаў унікальную кнігу „Маўклівыя сведкі мінуўшчыны" (Мінск, 1992). Удзельнічаў у стварэнні Парку валуноў каля Інстытута геахіміі і геафізікі НАН Беларусі, распрацаваў лекцыі для экскурсій па гэтым помніку прыроды, сам іх праводзіў для школьнікаў і студэнтаў.

Памёр Эрнст Ляўкоў 13 верасня 1996 года. Пахаваны ў Мінску на Чыжоўскіх могілках.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Уладзіміру Сідаруку на 80 гадоў

Ці хто гэта спадзяваўся, што **УС**у ўжо LXXX гадоў!
З чаго больш за шасцідзясятку з «Нівай» ён дружыць гатоў,
І з надзеяй на працяг мы — супрацоўнікі ды чытачы
Раскрываць старонкі будзем, знайсці **УС**а каб змагчы.
Ці па лёдзе, ці па снезе, ці ў залевы тэкст ішоў,
А заваяваў ён электрона, дык штодзень прысдаць гатоў
Новы тэкст свой баявіты, рамантычны свой успамін,
Добру раду неразумным, а падзяку — за пачын,
Подлым ворагам — адпор, а чынушам — па вушах,
Працавітым — у працы спор, сорам лодыру і крах.
І не страшна Уладзіміру ні дарога, далячынь,
Ходзь схадзіў ён свае ногі несучы параду ў чын.
Мы палічым па-кітайску — дваццаць год яму да ста.
І каб тую жа дваццатку разам з намі ён дастаў,
Дваццаць першага стагоддзя тэхніку каб пакарыў
І з касмічным паскарэннем ён пісаў і файна жыў,
І ў кампаніі ён малодшай ваяваў ён з горам, злом,
А пустое ды брыдкое звальваў на паганы лом.
Каб спакойна з усмешкай у твар у люстэрка спаглядаў,
Без змаршчын, мяшкоў пад вокам тыя дваццаць размяняў.

**Ад «Нівы», 19 студзеня 2020 года**

## Каб аўтобус ПКС ездзіў па ўік-эндах

У снежні 2017 года пасля доўгага перапынку па ваяводскай дарозе з Гайнаўкі ў Беласток , між іншым, цераз Нараўку і Новае Ляўкова пачаў ездзіць аўтобус ПКС. Не было яго два гады. Пусцілі па вышэйзгаданым маршруце тады, калі здалі ў карыстанне прыгожы новы будынак вакзала ПКС у Беластоку. Тады і памянялі расклад язды і маршруты некаторых пасажырскіх аўтобусаў. Аўтобусам ПКС можна рана паехаць у ваяводскі цэнтр і пад вечар вярнуцца дадому. Гэта добра. А было б яшчэ лепш, калі б ён ездзіў у выхадныя дні. Жыхары Нараўчанскай гміны часцей наведвалі б сваіх дзяцей, якія жывуць і працуюць у Міхалове або Беластоку. Унукі і іх бацькі па ўік-эндах прыязджалі б на вёску і ў нядзелю вярталіся б у гарады. А так сямейныя сувязі рвуцца.

Нашы айчынныя палітыкі многа гавораць, што будзе больш маршрутных аўтобусаў ПКС і нават адкрыюць новыя лініі ў далёкія ад гарадоў вёскі. Але толькі так гавораць ды ў газетах пішуць. Старэйшыя жыхары вёсак толькі на вус матаюць і чакаюць, калі паедуць абяцаныя ПКСы. А іх няма і няма.

Неўзабаве будуць чарговыя (прэзідэнцкія) выбары і зноў навальнічна пасыплюцца абяцанкі. Але зараз людзі ўсё менш у іх вераць. Яны „націскаюць" таго, хто бліжэй — солтыса і раднага. А тым на іх інтэрпеляцыі адпісваюць, што няма грошай. Няма іх і на рамонт ваяводскай ухабістай дарогі № 687 з Юшкавага Груда ў Навасады цераз Нараўку. Пра пабудову кальцавых дарог пабач Нараўкі і Новага Ляўкова маўчок. **(яц)**

Галоўнае праўленне
Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы запрашае на раённыя элімінацыі
XXVII Агульнапольскага фестывалю

**„Беларуская песня 2020"**

**1 лютага (субота) у Гайнаўскім доме культуры. Пачатак у 12.00.**

**2 лютага (нядзеля) у Гмінным асяродку культуры ў Орлі. Пачатак у 15.00.**

Уваход свабодны

Зрэалізавана дзякуючы датацыі
Міністра ўнутраных спраў
і адміністрацыі

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую прыказку.

1. складны з пласцінак паўкруг для абмахвання ў духату = 13 _ 29 _ 23 _ 20 _;
2. шасціграннік з квадратных бакоў = 1 _ 21 _ 18 _;
3. месяц цвіцення ландышаў = 16 _ 14 _ 15 _;
4. пояс = 27 _ 11 _ 7 _;
5. пас = 22 _ 19 _ 28 _ 24 _;
6. рака ў Пярэмышлі = 9 _ 8 _ 10 _;
7. рака ў Гомелі = 12 _ 2 _ 3 _;
8. невялікая рухавая рыбка, якая водзіцца ў... Куюні = 17 _ 26 _ 25 _;
9. партнёрка яго = 6 _ 4 _ 5 _.

(ш)

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 1 нумара**

Ас, борць, жук, крэм, Укаялі, Ушачы, чало.

Рашэнне: **Шчыраму сэрцу і чужая болька колка**.

# 02.02 — 08.02

**(22.03. — 20.04.)** Добры настрой. Без праблем удасца табе рэалізаваць амбіцыі, але вер у тое што робіш. 4-6.02. усвядоміш свае памылкі і паправіш іх. Усё, што патрабуе энергіі і нават адчаю, парабі ў першай палове лютага. Магчымы сакрэтны раман, але пасля 7 цяжка будзе яго скрываць. Сярод радні і сяброў захавай кампраміс. На працы сонна і ляніва, але не перанапружвай струны! З 8.02. важны момант рашэння спраў работы.

**(21.04. — 21.05.)** Разлічвай на дапамогу знаёмых і сяброў. Каханне як рукой падаць. 1-5.02. карысна заінвестуеш ашчаднасці. 2-5.02. можаш сустрэць асобу прыгожую і інтэлігентную, але выйдзі з хаты. Будзеш гуляць. Спакой і прыязная атмасфера на працы, рэалізуеш большасць сваіх амбіцый, а народжаных у II дэкадзе павысяць. Хаця поўня Месяца 8.02. можа выклікаць крызіс. 4-6.02. абавязкова запішыся на курсы. Добрыя настрой і форма.

**(22.05. — 22.06.)** Жыццё крыху заблытаецца, але настрой выдатны. Будзеш творчы. Але не патрабуй зашмат ад лёсу. У першыя дні магчымыя расчараванні — тое, што было для цябе абяцаннем, для іншага — толькі прыгода. Не спрачайся з прыяцелем. На працы ўсё згодна з тваімі чаканнямі. Будзе магчымасць праверыць сябе ў крызіснай сітуацыі; не спавальняй тэмп. Шукай працу ў першай палове лютага. 4-8.02. акажаш павальнае ўражанне на атачэнні. Але цяжка будзе табе дагаварыцца з людзьмі.

**(23.06. — 23.07.)** Збярэш усе сілы і дасі адпор хатнім і прафесійным выклікам. Не звяртай увагу на драбязу. Марс дадасць адвагі. У пары выйдзеш з крызісу, які не адолее кожная пара. Усё ўдасца паправіць! На рабоце час на твой рух у кар'еры. А Ракі што хочуць змяніць работу, будуць мець добрыя весткі 4-6.02. Дбай аб свае лёгкія, не нюхай дыму цыгарэт.

**(24.07. — 23.08.)** Ідзе лепшае! Прымі з удзячнасцю тое, што нясуць табе зоркі! І з надзеяй глядзі ў будучыню. Ідэальныя ўмовы для працы і забавы. Вакол сімпатычныя людзі. Венера падагрэе эмоцыі ў пары. Работы многа, нават цяжкай, але ад яе вялікае задавальненне. Хаця пра дадатковыя прыбыткі пакуль не чуваць. Але не збяднееш. Дамовы падпісвай да 17.02. Забудзешся аб нямоглацсях і атрымаеш вялікі прыліў энергіі.

**(24.08. — 23.09.)** Пакажаш кіпцюр, але можаш нарабіць сабе ворагаў. Каханне заслоніць табе ўвесь свет. Вельмі рамантычна. На працы сцеражы сваю прыватнасць. Някепская форма. 1-4.02. можаш прыашчадзіць, шукай нагод і прамоцый. 1-6.02. дасі рады з усім, з чым раней меў праблемы.

**(24.09. — 23.10.)** Прыйдзецца нарабіцца, але будзеш мець немалы поспех і задавальненне. 4-6.02. знакамітыя задумы на працы. Настрой крыху меланхалічны. У новай пары лішне не ангажуйся, правер, чаго хоча тая асоба. Дома паставішся і будзеш рашучы, тупнеш нагою. На працы не рабі прыгожых вочак, а працуй і падкрэслівай свой прафесіяналізм. Шалі з II дэкады — не паліце за сабой мастоў, шукаючы іншую работу. Можаш хутка зарабіць у лютым, але хутчэй яшчэ расходуеш грошы. Форма ніжэйшая, і хіба не ўцячэш ад інфекцыі.

**(24.10. — 22.11.)** 1-4.02. будзеш вельмі вабным. Калі ведаеш, чаго хочаш, дасягнеш свайго і пераканаеш іншых, каб сталі за табою. Неспадзяванкі ад лёсу. Хутка можаш праверыць сябе ў новай сітуацыі. Самотны Скарпіён мае ў сваім атачэнні асобу, дзеля якой хутчэй заб'ецца яго сэрца. Слухай людзей. За змены дома вазьміся 4-6.02. Поспех табе пісаны! Пільнуйся ад ашуканцаў, чакаючых ад цябе грошай, нават на «добрую мэту». Не абміне цябе прастуда, трэба будзе легчы ў ложак.

**(23.11. — 22.12.)** Прынясуць поспех цярплівасць і паслядоўнасць. 4-6.02. знакамітымі задумамі будзеш проста сыпаць як з рукава. Наладзіш небанальныя знаёмствы. Але не мусіш ім надта давяраць. На працы справішся таксама дзякуючы свайму таленту да імправізацыі. Задбай пра здаровыя навыкі ў сябе і ў тваіх блізкіх.

**(23.12. — 20.01.)** Твая дзейнасць будзе творчая, адважная і паспяховая. Будзеш інспірацыяй для іншых! 1-5.02. звернеш на свой бок нават тых, хто табе не спрыяў. Будзеш настойлівы, але і нервовы ды нецярплівы; справішся з гэтым. Кан'юнкцыя Юпітара падыме цябе на сам пік! Казярогі з I дэкады ўкруцяцца ў кампанію, на якой ім залежала.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш мець тысячу задум, як паправіць сваю працу і зарабіць фартуну. Яны могуць быць геніяльным спосабам на справы фірмы. Але хіба супрацоўнікі ці шэф гэтым не пакарыстаюцца, можа, баяцца змен? Дзейнічай і ў кампаніі. Радасны час і больш усмешак лёсу. Але будзь пільным! Вадалея ў пары чакае нялёгкі час. 4-6.02. паразмаўляй са сваякамі. Глытай магній і вітамін С.

**(20.02. — 21.03.)** Інтарэсы пойдуць знакаміта і прынясуць хуткі прыбытак. Грошай хопіць, але і спакус — пільнуйся. Зоркі памогуць у вучобе і здабыванні новых умеласцей ды ў справах у судах і ўстановах. Аддзеліш фантазію ад рэальнасці, навылёт прагледзіш планы канкурэнцыі. Першыя дні — найлепшыя для сардэчных спраў. Купляй жыллё ці штосьці да хаты ў першай палове месяца. Справішся са стрэсам, але пагоршыцца форма.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Музей Вялікага гасцінца

**На галоўнай плошчы Саколава-Падляшскага, плошчы ксяндза Бжузкі, убачыў я запрашэнне ў новаадкрыты Музей Вялікага літоўскага гасцінца. Ну, у некаторых нашых мясцовасцях не надта даўно паявіліся вулічныя стэнды-даведнікі пра гэты шлях. Здаліся яны мне павярхоўным мерапрыемствам без глыбейшага значэння. Ну, але калі пабачыў, што да гэтага праекта далучаны музей — не абыякая ўстанова, тады і згаданым Гасцінцам рашыў я глыбей пацікавіцца.**

Музей Вялікага літоўскага гасцінца ў Саколаве-Падляшскім быў заснаваны зусім нядаўна — у снежні мінулага года. Можна было б назваць яго нават музейным немаўляткам, аднак гэтая ўстанова прыемна мяне задзівіла сваёй камунікатыўнасцю. Музей займае адну з залаў Саколаўскага асяродка культуры і ён, як нованароджаны суб'ект, не поўнасцю завершаны, але ягоная візія будучыні ўражвае.

Тут прэзентацыя сівой мінуўшчыны адбываецца з прыцягненнем мадэрных мультымедыйных навінак. На традыцыйных стэндах інфармацыя пра галоўныя мясцовасці Вялікага літоўскага гасцінца. Гасцінец, калі глядзець на яго з захаду, пачынаўся з Варшавы. І праходзіў цераз важныя мясцовасці гістарычнага Падляшша: Венграў, Саколаў, Браньск, Бельск, Беласток, Саколку, Гародню і канчаўся ў Вільні. Мультымедыйныя стэнды прэзентуюць найважнейшыя славутасці — не толькі архітэктурныя, але і персанальныя — у абсягу Гасцінца.

Паколькі камунікацыя па Гасцінцы адбывалася гужавым транспартам, ёсць там мініяцюры колавых павозак. Але ёсць таксама і натуральнай велічыні сані, якія ў маім наваколлі называлі шыткамі. Паказаны дамашнія прылады, напрыклад бойка для масла ці качалка для тканін. Паказаны святочныя строі жыхароў Падляшша...

У куточку залы, за колішнім гасцінічным сталом, сядзіць фігура аднаго з найслаўнейшых кругасветных падарожнікаў Георга Форстэра, які ў сваіх маштабных вандроўках праехаўся і Вялікім літоўскім гасцінцам у 1784 годзе. І пакінуў цёплае апісанне самога Саколава-Падляшскага: „Гэта мілае, сімпатычнае мястэчка, дамы драўляныя, крытыя гонтай, вакол рынку аднак мураваныя і вельмі прыгожыя. Пошта мае вельмі прыгожы пакой для гасцей. Сцены тут аздобленыя гравюрамі, якія прадстаўляюць сем цудаў свету; між іншым від інтэр'ера храма ў Эфесе. Усе карцінкі прыгожа памаляваныя. Спяклі мне курыцу, і то ў посны дзень. А сонца свеціць так прыгожа, што нават у курнай ізбе было радасна пад яго прамянямі, да таго ж пад родаскім Калосам, велічным Калізеем, егіпецкімі пірамідамі, якія ў якасці аздоб стаяць на пастаментах перад сталамі і камінкамі, пад александрыйскім маяком, пад мурамі і вісячымі агародамі славутага Вавілона. Нават грабніца цара Маўзола не засмучвае думак...”



Фігура Георга Форстэра ў антуражы даўняй карчмы



Сані

Слоў некалькі варта прысвяціць асобе аўтара толькі што прыведзенага апісання. Георг Форстэр нарадзіўся ў 1754 годзе каля Гданьска ў сям'і пратэстанцкага пастара, продкі якога прыехалі з Шатландыі. У 1765 годзе бацька па запрашэнні расійскіх улад едзе на Паволжа выведаць сітуацыю тамашніх нямецкіх асаднікаў; забірае туды і сына. Паколькі ягоная ацэнка не спадабалася расійскім чыноўнікам, два гады пазней вяртаецца ў Польшчу, але паколькі пасада пастара ў ягоным прыходзе ўжо занята іншым, сям'я выязджае ў Вялікабрытанію. У 1770 годзе пасяляюцца ў Лондане. Два гады пазней славуты брытанскі мараплавец Джэймс Кук арганізуе свой другі рэйс вакол свету, ставячы сабе за мэту адкрыццё паўднёвага кантынента. Караблі Кука ўпершыню заходзяць за паўднёвы палярны круг, але да новага кантынента яны не даплываюць; Антарктыду мараплаўцы ўпершыню пабачаць толькі ў 1820 годзе. У 1775 годзе Кук вяртаецца ў Англію. А Георг Форстэр разам з бацькам сабралі багатыя весткі пра экзатычныя расліны, жывёлы, мінералы і пражываючых далёка людзей. Публікуюць яны кніжку пра сваё плаванне, а ў той час такія кнігі выклікалі вялікае зацікаўленне. Аднак матэрыяльнае становішча сям'і было даволі сціплае. Георг нейкі час працаваў у нямецкім горадзе Касель, а ў 1784 годзе атрымаў запрашэнне на пасаду выкладчыка натуральнай гісторыі ў Галоўнай віленскай школе. Дамова прадбачвала дзевяць гадоў працы Георга Форстэра ў Вільні, аднак прабыў ён там толькі да 1787 года, паколькі не мог асвоіцца з духовай езуіцкай атмасферай тамашняга асяроддзя, не было там ягоных аднадумцаў, кампаніі. Нейкі час працаваў бібліятэкарам у нямецкім Майнцы, дзе завёў сяброўства са славутым навуковым пабрацімам Аляксандрам Гумбальтам. Пра яго так напісана ў Энцыклапедыі Вялікага Княства Літоўскага: „З сакавіка 1793 у Парыжы. Актыўны ўдзельнік рэвалюцыйных падзей у Германіі і Францыі ў 1792-93, адзін са стваральнікаў першай нямецкай дэмакратычнай рэспублікі — Майнцкай камуны на Рэйне. Філасофскія погляды Форстэра склаліся пад уплывам французскіх матэрыялістаў 18 ст. Яго светапогляд эвалюцыянiраваў ад рэлігійнай веры да дэізму, потым да матэрыялізму і некаторых элементаў дыялектыкі. Форстэр цікавіўся ўтапічным сацыялізмам. Абураўся прыгнечаннем беларускіх і літоўскіх сялян, выступаў супраць панскага ўціску”. Да гэтага варта дадаць, што ў грамадскі абарот увёў ён паняцце „polnische Wirtschaft” — польская гаспадарка. У 1784 годзе пісаў ён з Вільні ў адным з лістоў: „Не хочацца мне гаварыць пра польскую гаспадарку: пра невыслоўную неакуратнасць, гультайства, п'янства ці непрыгоднасць пасланцоў...”

Не толькі Форстэр падарожнічаў па нашым старонні, былі і іншыя знатнасці, якія ў сваіх мемуарах пакінулі карціну мясцовага краявіду, у тым ліку і грамадскага.

Вільям Кокс у 1778 годзе: „Найбольшай мясцовасцю, цераз якую мы праязджалі, быў Бельск, горад, дзе адбываліся сеймікі. Ён нямнога лепшы ад звычайнай нэндзнай вёскі, але ў геаграфічных апісаннях Польшчы ганарыцца найменнем вялікага горада. Па дарозе між Бельскам і Войнамі амаль не загарэлася нам кола, і калі спыніліся мы ў малой вёсцы, каб яго памазаць, увайшоў я да некалькіх хатак, дзе спаткаўся з бесканечна большай нэндзай чым нават у тых няшчасных сялібах наведаных мною ў гарадах, якіх жыхары маюць больш свабоды. Там былі бачны прынамсі нейкія прылады і выгады, тут жа не было нічога апрача голых сцен. Мужыкі тут былі ўпоўніцу нявольнікамі, а іх выгляд і памяшканне поўнасцю адлюстроўвалі іх гаротныя жыццёвыя абставіны. Цяжка было мне ўявіць так роспачную галечу і бяду”.

Фрыдрых Шульц у 1791 годзе: „У Венграве стаяла дзве тысячы расіян і ад уезду мусіў я падпарадкавацца кантваіраванні рускага сяржанта ў палкавую канцылярыю, дзе пацікавіліся толькі маім прозвішчам. Паколькі нарадзіўся я ў краіне, дзе салдацкай дысцыпліны не лічаць няволяй, не адчуў я гэтага, як іншыя засцерагальныя меры, прыкрым; у Польшчы лічыцца гэта нечуваным прыгнётам... З гэтага можна сабе ўявіць мясцовую прывязанасць да свабоды. Як жа ж можа быць інакш, калі малая жменька самавольных паноў трымаецца прынцыпу: мы свабодныя за вас усіх і дубінкай утрымліваюць гэты прынцып у сваім народзе. (...) Цана за коней экстрапоштай, як усюды, ад аднаго да двух злотаў за мілю, г.зн. па восем грошаў; паштальён дастае за станцыю, даўжэйшую ці карацейшую, два злоты, якая сумарна плаціцца постмайстру. Аддае ён паштальёну толькі пасля вяртання, каб, займеўшы гэты скарб, не прапіў па дарозе, бо тутэйшаму люду адзінай радасцю з'яўляецца гарэлка. Калі, апрача таго, даехаўшы, дасі яму тры да пяці грошаў, цалуе рукі і апранахі. (...) Коні пасвяцца вакол пошты па дваццаць-трыццаць, прыбываючы паштальён затрубіць толькі і пільнуючыя ведаюць ужо ў чым справа. Проста з пашы вядуць іх да павозкі, умомант усё гатовяць і едзеш далей. Не важна, што не знаеш мовы. Трэба толькі навучыцца некалькіх лічб і гэтага хопіць. Грошы і без слоўніка чалавек умее лічыць і цаніць. (...) Літоўскія вёскі вельмі нэндзныя. Пабудаваны яны з драўніны і саломы, пра коміны і згадкі няма. Паколькі кожны нядбайна хаціну сваю клецідь і не думае пра папраўкі, вёскі выглядаюць як карціны бязладдзя і знішчэння. Прагнілыя сцены і дзіравыя стрэхі найчасцейшыя. Сярэдзіны апісваць ужо не стану. (...) Дзеці ўлетку і ўзімку ходзяць у адной кашулі. Весялосць натуральная, затое падсілкаваная гарэлкай вельмі паспалітая. Паны стараюцца, каб у корчмах было яе пад дастаткам. А ахвяравальнікі гэтай весялосці апошні грош і зярнятка збожжа забіраюць. Корчмы часткова арандуюць жыды, або карчмары за дзясяты грош. Дадаўшы да таго, што сціплыя збыткоўныя патрэбы мужык задавольвае ў жыдоў, а спадзяванне вечнай шчаслівасці атрымлівае ад манахаў, кожны можа сабе ўявіць стан гэтага люду і дабавіць тое, што я мог бы дадаць пра яго абычаі, гаспадарнасць і рэлігію...”

Са стэндавай інфармацыі пра Беласток: „Беласток у XIX ст. скора набраў значэння як цэнтр тэкстыльнай прамысловасці. Шмат гаворыць яго тадышняе найменне Манчэстэр Поўначы. Разнастайную мазаіку стваралі палякі, французы, расіяне, немцы і жыды, у тым Людвік Заменгоф, стваральнік універсальнай мовы Эсперанта”. Пра Саколаў: „Едучы Вялікім літоўскім гасцінцам кожны вандроўнік спыняўся ў Саколаве-Падляшскім, найстарэйшым горадзе на гістарычным Падляшшы, цэнтры рукадзелля. Праязджаў сюдою м.інш. князь Вітаўт, прысвойваючы гораду гарадское права ў 1424 годзе. Непаўторны характар горада стварала перад вякамі шматкультурная грамадская сумесь — побач сябе жылі тут уніяты, жыды, пратэстанты і католікі. У горадзе пачынаецца Шлях саколаўскіх уніятаў па маляўнічым наваколлі, драўляныя касцёлкі — даўнія уніяцкія цэрквы. З горадам звязана постаць Міхала Клеафаса Агінскага, які тут жыў і прымаў у гасцях м.інш. свайго прыяцеля караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага”.

Як паведаміла мне музейная праваднічка Мілена Курдзінска, запар з Музеем мае тут быць яшчэ турбюро ды рэстаранчык, які будзе прапанаваць наведвальнікам таксама кулінарныя рарытэты Мазовіі, Падляшша, Гарадзеншчыны і Віленшчыны. Прапанова мае быць пашырана на больш даведак пра мінулае Саколава, у тым ліку і пра даўніяцкіх продкаў тамашняй зямлі...

Шлях Вялікага літоўскага гасцінца, несумненна, стварае нагоду для развіцця расплаваных пры ім мясцовасцей. Ну і, як сусветна вядомыя Шаўковы шлях, які злучаў Еўропу з Кітаем ці дарога № 66, якая злучала усход ЗША з захадам, таксама і Вялікі літоўскі гасцінец павінен займець нейкую культавую вядомасць, прынамсі мясцовага значэння. Ён жа, як пупавіна, злучаў дзве нашы сталіцы...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960